ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№4 (121) красавік 2021 год
CATHOLICNEWS.BY

# 10 гадоў разам з вамі!


Падчас урачыстага святкавання 10-годдзя, 11.04.2021 г., г. Віцебск

## Слова ад рэдактара

Дарагія браты і сёстры ў Хрысце! Разам з Вамі мы дасягнулі дзесяцігадовага ўзросту газеты "Каталіцкі Веснік". Я свята перакананы, што гэта стала магчымым выключна праз магутнае заступніцтва Маці Божай і натхненне Духа Святога, Які вее там, дзе хоча. Гэта Ён аўтар тых вашых пабожных думак і ідэй, якія выліліся ў дасланыя нам тэксты вашых лістоў і мэйлаў. Гэта Ён ведае глыбіню нашых сэрцаў і запальвае агеньчык праўды там, дзе цемра імкнецца збудаваць свае валадарства.

Выхад газеты і праца сайта Catholicnews.by былі б немагчымымі, калі б не ваша падпіска і ахвяраванні, якія вы дасылаеце ў рэдакцыю. Гэта кожны ваш цяжка запрацаваны рублік, якім шчодра дзеліцеся, утрымлівае рэдакцыю і фінансуе ўсе выдаткі, каб мы маглі абвяшчаць Божае слова людзям.

Сучасны свет перапоўнены страшнымі і сумнымі навінамі. Мы ўсе свядома ці падсвядома імкнёмся пачуць тое, што добрае, што нясе супакой у сэрца і загойвае душэўныя раны. Як рэдактар я горача жадаю, каб Добрая Вестка – Евангелле – знайшло сваё месца ў кожнай вашай сям'і, у кожным вашым доме.

За дзесяць гадоў творчых пошукаў у газеце змяніліся многія рубрыкі, адышлі былыя супрацоўнікі і з'явіліся новыя. Мы вельмі жадаем адпавядаць духоўным патрэбам сучаснага чытача, таму разлічваем на вашу чытацкую падтрымку і дапамогу. Якія рубрыкі вы хацелі б бачыць у Весніку? Чаго не хапае ў нашай газеце? Што думаеце пра рубрыку "Каляндар пра святых", дзе апісваюцца святы на кожны наступны месяц? Лістуйце нам, тэлефануйце. Нам вельмі важна вашае меркаванне!

Асабліва хачу падзякаваць тым з нашых чытачоў, якія дасылаюць у рэдакцыю свае ахвяраванні, а таксама тым, хто дасылае інтэнцыі св. Імшы у газетную закрыстыю. За ўсіх ахвярадаўцаў і аўтараў газеты я асабіста адпраўляю св. Імшу кожны месяц, просячы ў Пана Бога шчодрага бласлаўлення для іх. Малюся таксама і за тых нашых дабрадзеяў, якіх ужо паклікаў да сябе Пан Бог. Няхай Ён сам будзе для іх вечнай узнагародай у небе.

Як рэдактар прашу прабачэння за ўсе недакладнасці і памылкі, якія маглі закрасціся ў нашае выданне цягам гэтых 10-ці гадоў. Усе яны, калі і былі, то толькі па прычыне нашай людской абмежаванасці і недасканаласці. Мы вельмі даражым кожным з вас і ніколі нікога не хочам пакрыўдзіць.

Я таксама вельмі ўдзячны супрацоўнікам нашай рэдакцыі, якія, маючы сціплы даход і іншую асноўную працу, усё-такі знаходзяць час, каб прысвяціць сябе цалкам выхаду кожнага нумара газеты і працы сайта. У нас сфармавалася сапраўды добрая каманда.

Якія будуць наступныя 5, 10 ці 15 гадоў Весніка? На гэтае пытанне складана адказаць. Але ўсю справу выдання газеты даручаю апецы Найсвяцейшай Панны Марыі, Якая нарадзіла свету Слова. Няхай Яе матчынае заступніцтва дапамагае ўсім нам глыбей спазнаваць Езуса Хрыста, Яе Сына і нашага Пана!

*Ксёндз-канонік Віктар Місевіч,*
*галоўны рэдактар*

# Біскуп Алег Буткевіч – Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі

**14 красавіка ў Мінску прайшло 80-е пленарнае пасяджэнне Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, прымеркаванае да 30-годдзя адраджэння структур Каталіцкага Касцёла ў нашай краіне.**

У выніку галасавання падчас пасяджэння новым Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі быў абраны біскуп Віцебскі Алег Буткевіч.

Намеснікам Старшыні абраны біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, Генеральным сакратаром ККББ стаў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, які застаецца старшынёй Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў і Рады па справах экуменізму, быў абраны таксама старшынёй Камісіі па справах агульнага пастырства пры ККББ.

### Ці будзе Будслаўскі фэст?

Удзельнікі пасяджэння абмеркавалі правядзенне сёлетняга Будслаўскага фэсту. Было вырашана, што традыцыйныя ўрачыстасці ў Нацыянальным санктуарыі Маці Божай Будслаўскай пройдуць 2 і 3 ліпеня ў звычайным фармаце, з захаваннем належных санітарных прадпісанняў і без правядзення арганізаваных пілігрымак. Ахвотныя могуць ладзіць пілігрымкі ў індывідуальным парадку.

Дэвіз Будслаўскага фэсту 2021 года – "Маці Касцёла, маліся за нас!"

Агульнанацыянальная ўрачыстасць у Бялынічах

Для адзначэння 30-годдзя ўтварэння Мінска-Магілёўскай Мітраполіі і адраджэння структур Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, а таксама 260-й гадавіны каранацыі цудадзейнага абраза Маці Божай Бялыніцкай папскімі каронамі было вырашана правесці агульнанацыянальную ўрачыстасць у Бялынічах (Магілёўская вобласць). Яна пройдзе 17–18 верасня. У межах урачыстасці плануецца правесці сімпозіум, а таксама шэраг набажэнстваў і цэлебрацый з удзелам вернікаў і іерархаў Касцёла ў Беларусі.

*Паводле Catholic.by*



# 10 гадоў "Каталіцкаму Весніку":


Галоўны рэдактар кс. Віктар Місевіч трымае свежы выпуск газеты. Віцебская друкарня, 2015 год. *Здымак Марыны Сінкевіч*


Кс. Віктар Місевіч, Зміцер Лупач, Леанід Юрык у Пінскай духоўнай семінарыі, красавік 2016 года. *Здымак Марыны Сінкевіч*


Юрась Бабіч


Вольга Будкіна


Біскуп Алег уручае Алене Пажозе Падзяку за руплівую працу ў рэдакцыі газеты, Віцебск, 11.04.2021. *Здымак Зміцера Лупача*

**1** **Ідэя выдаваць газету ў Віцебскай дыяцэзіі ўзнікла ў ксяндза Віктара Місевіча.** Як кажа Зміцер Лупач, ён у сваю чаргу часта задумваўся: чаму ў Віцебскай дыяцэзіі, якая ў 2009 годзе адзначыла дзесяцігоддзе, няма свайго друкаванага выдання? І калі на пачатку 2011 года ксёндз Віктар звярнуўся да яго з прапановай працы ў новай газеце, то з радасцю пагадзіўся.

**2** Але напачатку трэба было ўсю гэтую ідэю аформіць юрыдычна. Дзякуючы курыяльнаму юрысту **спадарыні Валянціне Адамцовай**, якой у 2011 годзе давялося перарваць сваё лячэнне ў санаторыі, цягам аднаго сакавіцкага дня ўсе неабходныя дакументы былі падрыхтаваныя і накіраваныя ў Міністэрства інфармацыі. Супрацоўнікі міністэрства замест месяца, прадугледжанага паводле закону для гэтай працэдуры, прынялі рашэнне на працягу двух тыдняў, і першы нумар "Каталіцкага Весніка" паспеў выйсці да Велікодных святаў.

**3** 5 красавіка 2011 года наша газета атрымала дзяржаўнае пасведчанне аб рэгістрацыі, а **першы нумар быў падпісаны ў друк 14 красавіка 2011 года.**

**4** **Лагатып газеты стварыў Цімур Берніковіч**, тады навучэнец глыбоцкай гімназіі, а цяпер вядомы айцішнік. Вынікам яго працы, зробленай яшчэ школьнікам, мы карыстаемся да гэтага часу.

**5** У першым нумары "Каталіцкага Весніка" ў 2011 годзе на першай паласе былі **спачуванні біскупа Віцебскага Уладзіслава Бліна з нагоды страшнай трагедыі – тэракту ў мінскім метро**. Так ужо атрымалася, што першы нумар быў азмрочаны такой сумнай навіной. Але калі пагартаць падшыўку Весніка за мінулыя 10 гадоў, то рэдка ў якім выпуску не знойдзецца матэрыял пра нейкую людскую бяду ці трагедыю.

Цярпенне спадарожнічае нам, часам не па нашай віне і заўсёды супраць нашага жадання. Што мы можам зрабіць як вернікі, як хрысціяне? Мы насамрэч можам многае! **Мы можам пастарацца Божае слова, Добрую Вестку зрабіць рэальнай і дзейснай у сваім жыцці!**

**6** **3 снежня 2012 года распачаў працу сайт нашай газеты Catholicnews.by.** Папяровыя версіі газет, хочам мы таго ці не, паступова сыходзяць у гісторыю, а выданні масава пераходзяць у Інтэрнэт. У 2014 годзе, на жаль, зламыснікам удалося моцна яго пашкодзіць. Усе захады, якія рабіла рэдакцыя з мэтай захаваць сайт, не далі чаканага плёну. На рэдкалегіі было прынята рашэнне перастварыць сайт нанова. Распрацоўкай заняўся **Мікіта Бобрык** з Бягомля. 6 снежня 2014 года карыстальнікі ўбачылі абноўлены партал Catholicnews.by. Ён змяніўся знешне. Дадаліся новыя рубрыкі. Інтэрфейс сайта распрацаваны такім чынам, што навіны можна зручна праглядаць праз мабільныя прылады. Сайт аўтаматычна падладжваецца пад памеры вашага смартфона ці планшэта.

**7** У свой час нам вельмі сур'ёзна дапамаглі **каталіцкія фонды Kirche in Not, Renovabis і Цэнтр дапамогі Касцёлу на Усходзе** пры Каталіцкім Епіскапаце Польшчы, а таксама **фонд пры епіскапаце Злучаных Штатаў Амерыкі**, прафінансаваўшы набыццё дарагой, але сучаснай і прафесійнай журналісцкай апаратуры. Мы заўсёды памятаем і вельмі ўдзячныя нашым спонсарам за падтрымку і разуменне нашай сітуацыі.

**8** **Працай над кожным нумарам штомесяц і электроннай версіяй штодня займаюцца:**

- **кс. Віктар Місевіч** – галоўны рэдактар, нягледзячы на абавязкі ў курыі, знаходзіць час, каб таксама падзяліцца Божым словам праз перыядычны друк;
- **Зміцер Лупач** – тэхнічны рэдактар;
- **Леанід Юрык** – мастацкі рэдактар, фатограф і аператар,
- **Марына Сінкевіч** – рэдактар сайта і фатограф,
- **Юрась Бабіч** і **Алена Пажога** – нашы карэктары,
- **Вікторыя Колзун, Ірына Радзевіч** (зараз у дэкрэтным адпачынку), якія працуюць на сайце, а таксама рыхтуюць для вас рубрыкі: "Правер свае веды" і "Літургічны каляндар";
- **Вольга Будкіна**, якая малюе дзіцячую старонку;
- **Марына Ткач**, якая працуе на сайце і рыхтуе артыкулы па псіхалогіі;
- і шмат іншых людзей, якія нам дапамагаюць, дасылаючы свае лісты на адрас рэдакцыі, тэлефануючы.

Дзейнасць рэдакцыі была б немагчымай, калі б не падтрымка **Дабрачыннага таварыства "Карытас"** Віцебскай дыяцэзіі, на якое юрыдычна ўскладзены абавязкі выдаўца газеты. Заслугай дырэктара **кс. каноніка Андрэя Аніскевіча** з'яўляецца афіцыйнае працаўладкаванне супрацоўнікаў рэдакцыі.

**9** **Шчыра дзякуем біскупу Віцебскаму Алегу Буткевічу за разуменне, блаславенне і падтрымку "Каталіцкага Весніка".** Дзякуючы яго пастырскай мудрасці і апецы сёння кожны з вас, дарагія сябры, можа трымаць у руках папяровае выданне "Каталіцкі Веснік" і гартаць у сецібе старонкі партала Catholicnews.by.

**10** **Нам заўсёды прыемна чытаць і чуць вашыя водгукі адносна нашай працы.** Цікавасць працы ў каталіцкім выданні і заключаецца ў тым, што мы, не зважаючы на сваю чалавечую абмежаванасць, дакранаемся да нечага звышнатуральнага, Боскага.

Хочам выказаць удзячнасць нашым дарагім ахвярадаўцам, якія жывуць у розных кутках Беларусі. Гэта кожны ваш цяжка зарабатаны рублік дапамагае нам выдаваць "Каталіцкі Веснік" і ўтрымліваць сайт Catholicnews.by.

**Вялікая ўдзячнасць усім чытачам газеты за падпіску і падтрымку малітвай, дасланымі лістамі, а таксама ахвяраваннямі. Разам мы зможам многае!**


Марына Сінкевіч і Ірына Радзевіч працуюць над рэпартажам. Будслаў, 2015 год. *Здымак Леаніда Юрыка*


Супрацоўніца рэдакцыі Вікторыя Колзун.

# Як усё пачыналася?

## Ну а цяпер крыху фактаў



**1** Першы нумар "Каталіцкага Весніка" знаходзіцца ў Ватыкане. Рэдактар кс. Віктар Місевіч асабіста перадаў яго для Папы Бэнэдыкта XVI падчас сустрэчы з арцыбіскупам Клаўдыё Марыя Чэлі, старшынёй Папскай рады па сродках масавай камунікацыі. Гэта адбылося 13 мая 2011 года.



**2** Самы тыражны нумар газеты быў падпісаны ў друк 25 верасня 2020 года. Колькасць экзэмпляраў – 13 300 шт. Самы малакалькасны нумар – 2 300 экзэмпляраў – быў падпісаны ў друк 19 мая 2011 года.




**3** Праца ў рэдакцыі ў сувязі з дэдлайнам бывае і начной. Самы "начны" выпуск – гэта 27-ы нумар газеты ў 2013 годзе. Ён быў падпісаны ў друк ноччу а 2 гадзіне 48 хвілін.


Каталіцкі ВЕСНІК
У Пінску прайшла агульнабеларуская сустрэча семінарыстаў

**4** Юбілейны нумар на 5-годдзе быў 24-палосным выданнем і цалкам каляровым.

**5** "Каталіцкі Веснік" – гэта адзінае каталіцкае выданне, якое можна выпісаць праз Белпошту і не шукаць у касцёлах, а чакаць дома ў паштовай скрыні.




**6** За 10 гадоў працы колькасць супрацоўнікаў рэдакцыі вырасла. Над першым нумарам працавала 6 чалавек. На сённяшні дзень выпуск кожнага нумара "Каталіцкага Весніка" – гэта вынік працы 11 чалавек.

**7** Вырасла палоснасць газеты. Першы нумар вярстаўся як васьміпалоснае выданне напалову чорна-белае, напалову каляровае. Быў час, калі ўсе нумары Весніка выходзілі ў колеры палоснасцю 16 старонак, на сёння гэта 16 старонак – напалову чорна-белых, напалову каляровых.

**8** У Віцебскай дыяцэзіі найбольш чытаюць Веснік, паводле дадзеных Белпошты, у Глыбокім, Паставах, Браславе, Докшыцах і Мёрах. У Гродзенскай – у Астраўцы, Ашмянах, Лідзе і Смаргоні, у Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі – у Маладзечне, Мядзелі, Вілейцы і Валожыне.




**9** За 10 гадоў "Каталіцкі Веснік" падаражэў напалову. У 2011 годзе падпісная цана была 750 руб. за адзін нумар. У першым паўгоддзі 2021 года падпісная цана – 1,22 руб за нумар газеты. Самы дарагі кошт Весніка быў у 2016 годзе – 8000 недэмінаваных рублёў за нумар. У 2011 годзе за 1 даляр можна было набыць 4 нумары газеты. Сёння – толькі 2 нумары.

**10** Самыя далёкія пункты, адкуль рабіліся рэпартажы, – гэта Партугалія, Італія, Украіна, Польшча, Латвія і Эстонія.

**11** Калектыў рэдакцыі "Каталіцкага Весніка" ўзнагароджаны Дыпломам за 1-е месца ў аглядзе-конкурсе па ўжыванні беларускай мовы сярод рэгіянальнага друку ў 2014 і 2019 гадах. Узнагарода прысуджана Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны. У 2019 годзе сайт Каталіцкага Весніка заняў першае месца па наведвальнасці сярод беларускамоўных сайтаў Віцебшчыны.

**12** За 10 гадоў рэдакцыя некалькі разоў змяняла месца знаходжання. Першы нумар газеты вярстаўся ў кватэры тэхнічнага рэдактара Змітра Лупача, затым быў толькі "стол" у адным з офісаў нашых сяброў, які дазволіў на працягу трох гадоў працаваць над выпускам газеты раз на месяц. 28 верасня 2014 года рэдакцыя размясцілася ў сваім памяшканні, дзякуючы дазволу папярэдняга глыбоцкага пробашча кс. Мечыслава Янчышына, які падтрымаў дыяцэзіяльную газету і вылучыў месца ў будынку старой плябаніі. 16 мая 2019г. было асвечана новае памяшканне рэдакцыі "Каталіцкага Весніка". Мы дзякуем цяперашняму пробашчу парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім кс. Мікалаю Ціхановічу за размяшчэнне рэдакцыі ў парафіяльным доме імя кс. Юзафа Францкевіча, а таксама за супрацоўніцтва і падтрымку.



**13** 15 чэрвеня 2016 года біскуп Алег прызначыў кс. Віктара Місевіча канцлерам Віцебскай дыяцэзіі, а 12 лістапада 2019 года падчас урачыстасці святкавання 20-годдзя Віцебскай дыяцэзіі біскуп Алег абвясціў аб прызначэнні кс. Віктара Місевіча Грэміяльным Канонікам Віцебскага Катэдральнага капітула. Нягледзячы на тытул і вялікую працу ў курыі, кс. Віктар не пакідае сваё "дзіця" ☺ і надалей застаецца галоўным рэдактарам Весніка.

**14** У рэдакцыю за 10 гадоў працы даслана каля 4 тыс ахвяраванняў ад нашых чытачоў і 804 інтэнцыі ў газетную закрыстыю. Нас актыўна падтрымліваюць каля 300 ахвярадаўцаў.

**15** Створана 60 дзіцячых старонак, з 2015 года штогод рэдакцыя распрацоўвае гульню-самаклейку для дзяцей на перыяд Адвэнту.

Адзіная мэта, дзеля якой існуе медыяпраект "Каталіцкі Веснік", – гэта абвяшчэнне Евангелля беларусам і не толькі. Мы вельмі горача жадаем, каб Добрая Вестка пра збаўленне чалавека ўвайшла ў кожны дом!

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*



# Малады Хорхе Берголіа практыкаваў начную адарацыю

**Малады Хорхе Марыа Берголіа практыкаваў начную эўхарыстычную адарацыю. Для гэтага ён адмыслова ездзіў са свайго перыферыйнага раёна Флорэс у базыліку Найсвяцейшага Сакрамanta ў цэнтр Буэнас-Айрэса.**

Гэта пацвердзіў сам Пантыфік у лісце, напісаным уласнаручна, у рэдакцыю іспанскага каталіцкага штотыднёвіка Alfa y Omega, ад якога атрымаў фотакопію спісу асобаў, якія прымалі ўдзел у адарацыі ў 1954 – 1955 гадах. У брацтве начной адарацыі Хорхе Марыа Берголіа меў нумар удзельніка 9195. Ён праводзіў на малітве ў базыліцы суботнія ночы, адпачываючы ў пакоі на першым паверсе, дзе знаходзілася зала з месцамі для сну. Будучы Пантыфік ездзіў на адарацыю разам з братам Оскарам і адным з суседзяў Ганзала Баргела.

"Адарацыя распачыналася каля дзявятай вечарам пасля казання айца Арысты", – успамінае Францішак у сваім лісце. Іспанскі духоўнік айцец Хасэ Рамон Арысты быў спаведнікам маладога Берголіа і адначасова правінцыялам Кангрэгацыі Айцоў Найсвяцейшага Сакрамanta, заснаванай святым Юліянам Эймарам.

Папа ўзгадваў пра яго ў 2014 годзе падчас сустрэчы з духавенствам Рыма як пра славутага ў Буэнас-Айрэсе спаведніка, да канфесіяналу якога ўвесь час стаялі чэргі. Калі ён памёр ў 1996 годзе, Берголіа, ужо будучы дапаможным біскупам у Буэнас-Айрэсе, адраваў на памяць крыжык з ружанца, які быў у далонях памерлага ў труне. Біскуп Берголіа паглядзеў тады на цела а. Арысты і сказаў: "Дай мне палову тваёй міласэрнасці". "Я адчуў штосьці, што дало мне адвагу гэта зрабіць. А потым я паклаў гэты крыжык у кішэню", – прызнаўся Папа Францішак, дадаўшы, што "шмат добрага робіць прыклад міласэрнага святара, які набліжаецца да ран" людзей.

Сведкам здарэння пры труне а. Арысты быў яго сабрат а. Андрэс Таборда SI. Ён памятае, як патлумачыўся тады біскуп Берголіа: "Гэтым ружанцам у далоні ён адпусціў грахі вялікаму мностве грэшнікаў".

Начная адарацыя Найсвяцейшага Сакрамanta трывае ў гэтай базыліцы ад 1917 года.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнствы, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакрамантальная паслуга, размова, кожны чацвер з 17.00.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце**
**Catholicnews.by**

# Брацтвы ў рыма-каталіцкім касцёле Беларусі

*Заканчэнне. Пачатак у №3*

Міласціну жабракі атрымлівалі ў нядзельныя і святочныя дні як асобна ад братчыкаў, так і ад брацтваў увогуле. Менавіта на такую мэту прызначалася частка касы брацтва пры ракаўскім касцёле. Акрамя дробнай грашовай дапамогі, братчыкі, згодна са статутамі, павінны былі аказваць асабістую рэгулярную дапамогу асобам, якія знаходзяцца ў патрэбе. Таму дадаткова кожны братчык па меры сваіх магчымасцяў стараўся дапамагчы бедным ежай альбо вопраткай. Асаблівым чынам у дабрачынную дзейнасць – паслугу бедным людзям, вязням – уключаліся чальцы брацтва добрай смерці, якое дзейнічала пры кляштарах французскіх францысканцаў у Вільні і Коўне.

Да спецыфічных формаў брацкай "знешняй" дабрачыннасці належаць традыцыі Юравіцкага пахавальнага брацтва. Звычайна пры пахаванні заможных асобаў за кандукт братчыкі атрымлівалі грошы, палова з якіх дзялілася паміж імі, а другая – адпраўлялася ў касу брацтва. Пахаванне бедных асобаў, сваякі якіх не маглі заплаціць братчыкам, адбывалася бясплатна, а братчыкі карысталіся грашамі з супольнай касы, выдзяляючы пэўную суму кожнаму ўдзельніку пахавальнай працэсіі.

У параўнанні з дзейнасцю праваслаўных брацтваў, асабліва тых, якія існавалі ў XVI – XVII стст., пазарэлігійная дзейнасць каталіцкіх брацтваў характарызавалася нізкай актыўнасцю. Адзінкавымі былі выпадкі навучання братчыкамі дзяцей грамаце. Аднак дадзеныя ініцыятывы рэалізоўваліся выключна канкрэтным чальцом брацтва, але не з'яўляліся справай, якой брацтва займалася згодна са статутам. Адзіным брацтвам, каторае шырока займалася пазарэлігійнай дзейнасцю, было брацтва міласэрнасці ў Вільні. У брацтва ўваходзілі бедныя і жабракі з горада, якія збіраліся пры касцёле св. Яна.

Згодна з кананічным правам каталіцкага касцёла, дзейнасць канкрэтнага брацтва зацвярджалася Папам Рымскім. Зацвярджэнне магло быць розным: дзейнасці канкрэтнага брацтва пры канкрэтным касцёле; зацвярджэнне брацтва і дазвол на яго распаўсюджанне пры розных касцёлах; зацвярджэнне брацтва для канкрэтнага манаскага ордэна. З 1794 г. у Расійскай імперыі быў уведзены прынцып, згодна з якім брацтвы зацвярджаліся епіскапам без узгаднення са свецкімі ўладамі.

Масавая кляштараў пасля паўстання 1830-31 гг. прывяла да спынення дзейнасці тых брацтваў, якія дзейнічалі пры закрытых кляштарных касцёлах (ружанцовае, шкаплернае і г.д.). Аднак самі брацтвы як арганізацыі вернікаў знаходзіліся па-за межамі ўвагі ўладаў да 1864 гг. Да таго часу яны функцыянавалі згодна з унутраным правам рыма-каталіцкага касцёла. Паўстанне 1863 – 1864 гг. выклікала чарговую хвалю рэпрэсіўных мераў у адносінах да каталіцкага касцёла. Сярод іх у асобную групу выдзяляліся меры адносна брацтваў. У групу падазроных арганізацый брацтвы трапілі з шэрагу прычын. Па-першае, брацтвы з'яўляліся арганізацыямі, якія ўлады не маглі цалкам кантраляваць. Па-другое, яны аб'ядноўвалі людзей усіх саслоўяў, па-трэцяе, большасць брацтваў мела ўласную касу і непадкантрольныя ўладам сродкі. Пачацвёртае, урад не разумеў сутнасці, мэтаў, задачаў і дзейнасці брацтваў, што, у сваю чаргу, выклікала сур'ёзную занепакоенасць.

Пытанне аб рымакаталіцкіх брацтвах было ўзнята М. Мураўёвым у 1864 г. Першапачатковыя мерапрыемствы датычыліся выключна збору звестак і падліку колькасці брацтваў і, па меры магчымасці, братчыкаў, на беларуска-літоўскіх землях. Наступны раз пытанне аб дзейнасці брацтваў паўстала ў 1866 г. у рэвізійнай камісіі, дзе абмяркоўвалася, наколькі да брацтваў могуць прымяняцца дзяржаўныя правілы, якія ставяць іх побач з палітычнымі таварыствамі. У чарговы раз пытанне паўстала ў 1867 г., калі мінскаму, ковенскаму, віцебскаму і магілёўскаму губернатарам была накіраваная цыркулярная прапанова аб прадастаўленні звестак пра брацтвы і аб скасаванні тых з іх, якія не маюць дзяржаўнага дазволу на дзейнасць. У цыркуляры адзначалася:

*"1) по действующим постановлениям никакое общество, товарищество, братство или иное подобное собрание не может существовать без ведома или согласия правительства, и не может быть терпимо даже и под предлогом какой-либо благотворительной или другой будто бы полезной цели, что только те общества, товарищества и подобные собрания охраняются полицией, которые утверждены установленным порядком, всякое же неутвержденное общество немедленно закрывается, (...) 4) весь вред от бесконтрольного существования костёльных братств в (...) вверенном моему управлению крае, подтверждённый многими примерами во время происходивших в крае политических беспорядков, я счёл безотлагательно решить вопрос (...) о римско-католических церковных братствах и сделать в отношении их распоряжения:*

*Римско-Католической Духовной Консистории (...) те из них (братств), которые имеют законное основание к своему существованию и разрешены Правительством, оставить существовать беспрепятственно, доставив мне о них точные сведения, именные списки братчиков и самые уставы, те же братства, которые не представят на свое существование законного разрешения и не имеют уставов, немедленно закрыть (...) и обязать их подписками об известности им настоящего распоряжения".*

Вышэйзгаданыя прычыны выклікалі масавыя распараджэнні губернатараў да біскупаў і паліцэйскіх спраўнікаў аб прадастаўленні звестак пра існыя брацтвы, іх мэты і задачы, кім і калі яны былі зацверджаныя, а таксама аб палітычнай добранадзейнасці братчыкаў (*"при каких именно костёлах находятся означенные братства, с которого времени они существуют, с чего разрешения каждое учреждено и для какой цели, каким уставом или инструкцией руководствуются и куда именно обращаются деньги, собираемыя, жертвуемыя братчиками, равно как и все другия сведения к этому предмету относящиеся, а также какого поведения и благонадёжны ли в политическом отношении самые братчики"*).

У выніку аказалася, што адзіным на той час брацтвам, якое мела імператарскі (Паўла I) дазвол на існаванне, было брацтва св. Марціна немцаў-католікаў, заснаванае яшчэ ў XVII ст. пры касцёле св. Ганны ў Вільні. У яго ўваходзіла толькі нямецкае насельніцтва, а імператарская зацвярджэнне забяспечыла брацтва і штогадовымі датацыямі ад дзяржавы ў памеры 90 руб.

На іншыя пастаўленыя губернатарамі пытанні адказы адрозніваліся. Калі ад біскупаў губернатары атрымлівалі лісты з тлумачэннем сутнасці брацтваў, пералікам мэтаў і задачаў, а таксама абавязкамі братчыкаў, то некаторыя паліцмайстары пачыналі шукаць у дзейнасці брацтваў палітычны падтэкст.

Так, паводле ваеннага начальніка Навагрудскага павета, *"братства составляются из числа местных прихожан, которые хотя явно и незамечены в распространении между православными Католицизма и поддержания польской пропаганды, но как полагать нужно, устроены таковыя лишь для означенной цели. Что же касается политической благонадёжности братчиков, то хотя оныя и ни в чем не замечены, но за благонадёжность их ручаться нельзя, как некоторые заявили себя в подаче прошения Главному Начальнику Края об возврате упразднённого Мирского костёла, минуя ближайшее Начальство".*

Ваенны начальнік Мазырскага павета адзначаў, што *"из рассказов лиц, бывших в Мозыре в 1863 году, свидетельствующих о том, что в костёле пелись гимны, можно с полною вероятностью заключить, что братчицы были деятельными участницами в этих музыкальных демонстрациях".*

Аднак нават спадзеючыся адшукаць палітычны падтэкст у дзейнасці брацтваў, пераважная большасць спраўнікаў і ваенных начальнікаў рапартавала аб іх выключна рэлігійным характары. Так, ваенны начальнік Дынабургскага павету ў рапарце адзначаў, што *"в братствах никто из помещиков не состоит, а только одни крестьяне, что с самого начала мятежа, как мне достоверно известно, ничего бурного не происходило (...), крестьяне всегда были верны законному правительству".* У большасці рапартаў адзначалася, што братчыкі ў палітычных адносінах "добранадзейныя", а таксама аб тым, што *"вообще в деятельности этих, так называемых братчиков, не обнаружено до настоящего времени ничего предрассудительного. За поведением их, во всяком случае, имеется строгое наблюдение".*

Нягледзячы на пераважна станоўчыя характарыстыкі братчыкам і тлумачэнні мэтаў расходаў грошай з брацкіх касаў, высвятленне мэтаў дзейнасці брацтваў, тыя з іх, якія не маглі прадаставіць доказаў іх зацвярджэння свецкімі ўладамі, было загадана ліквідаваць. 20 красавіка 1868 г. віленскі, ковенскі, мінскі і гродзенскі генерал-губернатар выдаў распараджэнне аб закрыцці ўсіх брацтваў пры касцёлах. Усе эмблематычныя знакі брацтваў і кнігі, якія ім належалі, прызначаліся да спалення. Цыркуляр ад 31 мая 1868 г. абавязваў дэканаў і пробашчаў зачытаць у касцёлах распараджэнне аб закрыцці брацтваў. Пасля гэтага ў чальцоў брацтва бралі распіску аб азнаямленні з цыркулярам і яно лічылася скасаваным.

Забарона дзейнасці брацтваў прывяла да таго, што яны сталі існаваць тайна, падобна як і забарона дзейнасці каталіцкіх школ выклікала ўзнікненне тайнага навучання. Кантраляваць працэс ліквідацыі было дастаткова складанай справай, паколькі, як ужо адзначалася, асноўным зместам дзейнасці каталіцкіх брацтваў былі рэлігійныя практыкі. Размяжоўваць іх на прыватныя і брацкія было практычна немагчыма. Калектыўнае выкананне брацкіх рэлігійных абавязкаў таксама немагчыма было кантраляваць, паколькі праводзіліся яны ў касцёлах, дзе ў іх маглі ўдзельнічаць як братчыкі, так і іншыя парафіяне. Аднак пад падазрэнне траплялі асобы, якія збіраліся для малітваў у прыватных дамах, як гэта адбывалася ў м. Мсцібаў Ваўкавыскага павету. Там у доме сялянкі Маргарыты Галасевіч стварылі "тэрцыярскае брацтва", чальцы якога маліліся па "кнігам секретным "не цензурным"". У падобных выпадках братчыкі падвяргаліся пакаранням у выглядзе штрафаў.



**Касцёл Святой Ганны ў Вільні (злева), пры якім дзейнічала брацтва св. Марціна.**
*Здымак Змітра Лупача, 31.03.2021*

⇒

# ў канцы XVIII – пачатку XX стагоддзяў

⇒ Да канца XIX ст. пытанне аб дзейнасці брацтваў пры касцёлах паўставала некалькі разоў на губернскім узроўні. Датычылася яно перадусім збору звестак пра наяўныя арганізацыі вернікаў і ў выпадку іх выяўлення – правядзення карных мераў і закрыцця. Так, у рапарце Гродзенскага павятовага спраўніка адзначалася, што ў 1898 г. па павеце брацтвы дзейнічалі ў Луненскім, Валпянскім і Вяліка-Эйсмантаўскім касцёле. Ваўкавыскі павятовы спраўнік даносіў аб адным брацтве пры Мсцібаўскім касцёле з зазначэннем, што братчыкі *"никакой вредной деятельности не ведут"*.

У 1899 г. слонімскі павятовы спраўнік даносіў гродзенскаму губернатару аб асобах, якія *"могут быть отнесены к категории братчиков"*. Дзейнічалі яны, згодна з рапартам спраўніка пры слонімскім, ружанскім, дварэцкім, дзятлаўскім і косаўскім касцёлах, прычым "брацкая" дзейнасць абмяжоўвалася выключна дапамогай святару падчас набажэнстваў. Прадстаўленыя гродзенскаму губернатару звесткі дазволілі яму сцвярджаць, што *"в тех местах, где ксендзы более на виду, терциарские общества не встречаются, а существуют они преимущественно в центрах более глухих и главным образом при таких костёлах, в которых настоятелями являются ксендзы, особенно известные своею политическою окраскою"*.

У чарговы раз пытанне аб дзейнасці брацтваў паўстала ў 1905 г. у сувязі з выданнем указу аб верацярпімасці. У жніўні 1905 г. з дэпартамента духоўных спраў былі разасланыя лісты да губернатараў з просьбай прадаставіць звесткі аб наяўных у іх губернях брацтвах. Аднак на той момант брацтваў на беларускіх землях практычна не засталося. Так, па звестках павятовых спраўнікаў Мінскай губерні, на Міншчыне не было аніводнага брацтва. У Віцебскай губерні брацтвы выяўлены пры некаторых касцёлах (прэльскім, варкаўскім, рушонскім, біржагольскім і аглонскім – на сённяшніх латвійскіх землях). Да брацтваў залічваліся таксама тэрцыяркі, якімі, на думку спраўнікаў, былі пабожныя жанчыны, а таксама асобы, каторыя пражывалі ў касцельных багадзельнях, што таксама не заўсёды адпавядала рэчаіснасці.

У 1911 г. магілёўскі мітрапаліт В. Ключынскі ў сваім мемарандуме спрабаваў вярнуць каталіцкаму касцёлу права ў галіне заснавання брацтваў, сцвярджаў пра неабходнасць іх дзейнасці, а таксама заклікаў улады не перашкаджаць існаванню наяўных пры касцёлах брацтваў, як і стварэнню новых. Сваю просьбу мітрапаліт абгрунтоўваў менавіта тым, што мэтай брацтваў з'яўляецца *"внутренняя религиозная жизнь верующих. Никаких других обязанностей, кроме стремления к самоусовершенствованию, никаких других практик, кроме известных молитв, а иногда и постов, они не налагают. Ни одно из этих братств не преследует какой-либо политической цели, ибо в таком случае братство не было бы одобрено Главою Церкви"*. Аднак у адказе на вышэйзгаданы мемарандум Міністр унутраных спраў А. Макараў адзначыў, што дзейнасць каталіцкіх брацтваў можа быць магчымай толькі пры дазволе з боку Міністэрства ўнутраных спраў.

Дзейнасць брацтваў пры рыма-каталіцкіх храмах рэгулявалася кананічным правам каталіцкага касцёла. Забарона іх дзейнасці на тэрыторыі Беларусі ажыццяўлялася ў рамках палітыкі расійскага ўраду, накіраванай на абмежаванне ўплыву каталіцкага касцёла пасля паўстання 1863–1864 гг.

*Паводле навуковых публікацый* ***Раісы Зянюк***



18-го октября, вторникъ. 1905 г. 18-го октября, вторникъ.

ВѢДОМОСТИ СПБ. ГРАДОНАЧАЛЬСТВА

№ 221 LXVII-й годъ изданія. № 221

ВЫСОЧАЙШІЙ МАНИФЕСТЪ.

БОЖІЕЮ МИЛОСТІЮ,

МЫ, НИКОЛАЙ ВТОРЫЙ,

ИМПЕРАТОРЪ И САМОДЕРЖЕЦЪ ВСЕРОССІЙСКІЙ,

Царь Польскій, Великій Князь Финляндскій,

и прочая, и прочая, и прочая.

Объявляемъ всѣмъ НАШИМЪ вѣрнымъ подданнымъ:

Смуты и волненія въ столицахъ и во многихъ мѣстностяхъ Имперіи НАШЕЙ великою и тяжкою скорбью преисполняютъ сердце НАШЕ. Благо Россійскаго ГОСУДАРЯ неразрывно съ благомъ народнымъ и печаль народная ЕГО печаль. Отъ волненій, нынѣ возникшихъ, можетъ явиться глубокое нестроеніе народное и угроза цѣлости и единству Державы НАШЕЙ.

Великій обѣтъ Царскаго служенія повелѣваетъ НАМЪ всѣми силами разума и власти НАШЕЙ стремиться къ скорѣйшему прекращенію столь опасной для Государства смуты. Повелѣвъ подлежащимъ властямъ принять мѣры къ устраненію прямыхъ проявленій безпорядка, безчинствъ и насилій, въ охрану людей мирныхъ, стремящихся къ спокойному выполненію лежащаго на каждомъ долга, МЫ, для успѣшнѣйшаго выполненія общихъ предначертываемыхъ НАМИ къ умиротворенію государственной жизни мѣръ, признали необходимымъ объединить дѣятельность высшаго Правительства.

На обязанность Правительства возлагаемъ МЫ выполненіе непреклонной НАШЕЙ воли:

1. Даровать населенію незыблемыя основы гражданской свободы на началахъ дѣйствительной неприкосновенности личности, свободы совѣсти, слова, собраній и союзовъ.

2. Не останавливая предназначенныхъ выборовъ въ Государственную Думу, привлечь теперь же къ участію въ Думѣ, въ мѣрѣ возможности, соотвѣтствующей краткости остающагося до созыва Думы срока, тѣ классы населенія, которые нынѣ совсѣмъ лишены избирательныхъ правъ, предоставивъ засимъ дальнѣйшее развитіе начала общаго избирательнаго права вновь установленному законодательному порядку.

и 3. Установить, какъ незыблемое правило, чтобы никакой законъ не могъ воспріять силу безъ одобренія Государственной Думы и чтобы выборнымъ отъ народа обезпечена была возможность дѣйствительнаго участія въ надзорѣ за закономѣрностью дѣйствій поставленныхъ отъ НАСЪ властей.

Призываемъ всѣхъ вѣрныхъ сыновъ Россіи вспомнить долгъ свой передъ Родиною, помочь прекращенію сей неслыханной смуты и вмѣстѣ съ НАМИ напрячь всѣ силы къ возстановленію тишины и мира на родной землѣ.

Данъ въ Петергофѣ въ 17 день Октября, въ лѣто отъ Рождества Христова тысяча девятьсотъ пятое, Царствованія же НАШЕГО въ одиннадцатое.

На подлинномъ Собственною ЕГО ИМПЕРАТОРСКАГО ВЕЛИЧЕСТВА рукою подписано:

„НИКОЛАЙ".

**Маніфест імператара Мікалая ІІ, надрукаваны ў "Ведомостях Санкт-Петербургского градоначальства" 18.10.1905.**

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Зарана Высоцкая** *(Глыбокае)*, **Леакадзія Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Галіна Ціунель***(Едлавічы)*,**Валерыя Шакель** *(Друйск)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Ніна Шпак** *(Друйск)*, **Ірэна Крывель** *(Вайнюнцы)*, **Раман Цярэнцьеў** *(Полацк)*, **Марыя Гасюль** *(Ахрэмаўцы)*, **Марына Катовіч** *(Зорка)*, **Валянціна Мурзенак** *(Паставы)*, **Тэрэса Тышко** *(Камарова)*, **Анэля Кашкур** *(Павяцце)*, **Часлава Садоўская** *(Глыбокае)*, **Раіса Казаровец** *(Варапаева)*, **Ян Кіслы** *(Шваклы)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Людміла Страчынская** *(Івянец)*, **Пашкевіч Э.В.** *(Бігосава)*, **Ванда Дзенісенка** *(Жыткавічы)*, **Тэрэза Каптур** *(Едлавічы)*, **Святлана Грышкевіч** *(Параф'янава)*, **Сафія Іжык** *(Ашмяны)*, **Лапушынскі Г.І.** *(Коўзаны)*, **Ганна Барысевіч** *(Глыбокае)*, **Валянціна Курто** *(Луцк Казлоўскі)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Валянціна Рыбак** *(Гомель)*, **Ганна Аліхвер** *(Камаі)*, **Ніна Дангель** *(Камаі)*, **Генавефа Дубіловіч** *(Камаі)*, **Крысціна Краміч** *(Камаі)*, **Ганна Казлоўская** *(Камаі)*, **Гітана Лебедзь** *(Камаі)*, **Ала Наумчык** *(Камаі)*, **Яўгенія Нядзведская** *(Камаі)*, **Марыя Роліч** *(Камаі)*, **Яўгенія Хведзевіч** *(Камаі)*, **Ганна Гуйская** *(Камаі)*, **Яніна Сінкевіч** *(Паставы)*, **Аліна і Анатоль Пярхальскія** *(Глыбокае)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Трайко Я.А.** *(Карасіна)*, **Ніна Маркоўская** *(Мінск)*, **Ядвіга Піліпенка** *(Параф'янава)*, **Дана Варанько** *(Друя)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Ніна Марунько** *(Новалукомль)*, **Ніна Голенькая** *(Віцебск)*, **Эма Роўда** *(Новалукомль)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Яніна Бруйко** *(Пашкі)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Галуза Г.А.** *(Падсвілле)*, **Марыя Вярцінская** *(Вярцінскія)*, **Лубінская Я.Ф.** *(Шыметава)*, **Эмілія Стакла** *(Юльянова)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Валянціна Хададнёнак** *(Сталіца)*, **Юзэфа Малей** *(Сітцы)*, **Галіна Шкецік** *(Смулькова)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Аніцэта Пілецкая** *(Новалукомль)*, **Лілія Іватовіч** *(Янеўічы)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Крымская К.І.** *(Наваполацк)*, **Марыя Рагіня** *(Стары Двор)*, **Даната Рудак** *(Захарнічы)*, **Тэрэса Смулько** *(Зорка)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выданне кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*




## Ці можна пасля смерці блізкага чалавека на працягу года ажаніцца ці выйсці замуж?

Каб адказаць на гэта, варта разгледзець два асноўныя пытанні.

### Што такое сужэнства?

Касцёл вучыць, што сужэнства – гэта саюз, праз які мужчына і жанчына ўстанаўліваюць паміж сабой супольнасць усяго жыцця (пар. ККП 1055).

Заключыць такі саюз могуць мужчына і жанчына, ахрышчаныя, якія маюць права ўзяць шлюб, добраахвотна выказваюць сваю згоду (ККК 1625) і не звязаны папярэднім сужэнскім саюзам (пар. ККП 1085.1). Саюз спыняецца са смерцю аднаго з сужэнцаў.

### Што такое жалоба?

Мы адрозніваем дзве формы жалобы: жалоба як эмацыйны стан і жалоба як звычай.

Жалоба ў пачуццях, як эмацыйны стан – натуральная рэакцыя чалавека на смерць блізкай асобы. Для яе характэрныя смутак, непрыманне яркага, каляровага адзення і ўдзелу ў якіхсьці забавах. Працягласць гэтай жалобы можа быць большая або меншая, у залежнасці ад асобы і адносінаў з чалавекам, які адышоў у вечнасць. Жалоба ў пачуццях – гэта імкненне сэрца і з сэрца паходзіць.

Жалоба ж як звычай акрэслівае пэўныя дэталі – працягласць (15 месяцаў пасля смерці жонкі і мужа, год – пасля смерці бацькоў, 6 месяцаў – пасля смерці бабулі і дзядулі і г.д.), пэўныя забароны (чорныя хусткі, вопратка, стужкі, забарона рабіць макіяж, удзельнічаць у вяселлях, забавах).

Жалоба як звычай не рэгулюецца касцельным правам і не ўтварае перашкоды для заключэння новага сужэнскага саюзу.

*З павагай,*
***кс. Павел Беланос***

# Как говорить с ребёнком, чтобы он вас услышал



**Все родители однажды сталкиваются с ситуацией, когда вы не единожды просите ребёнка сделать что-то, вроде бы получаете утвердительный кивок головой, но дальше никаких действий не происходит.**

■ **Марина Ткач**, *психолог*



Вам кажется, что ваше чадо вас слушало, но не услышало. Ваша первая (и контрпродуктивная) реакция – упрекнуть, накричать, проявить строгость и потребовать исполнения просьбы. Все эти действия не приведут к желаемому результату, и даже если ребёнок выполнит то, о чём вы его просите, сделает он это из чувства страха. Согласитесь, это не самый лучший вариант отношений, фундаментом которых является страх.

И прежде чем понять, как вести себя в подобных ситуациях, давайте рассмотрим две глобальные причины, по которым ребёнок "не слышит" и игнорирует обращение или просьбы родителей.

**Сопротивление.** В этой ситуации ребёнок понимает, чего вы от него просите, но игнорирует вас, тем самым демонстрируя борьбу с вашим авторитетом. Также реакция сопротивления может основываться на прошлых обидах, которые есть у ребёнка в отношении вас. Отмечу, что продолжать настаивать на своём в ситуации сопротивления неэффективно. Лучшее, что можно сделать, – это признать наличие проблемы и попытаться найти причины её возникновения. Ситуация сопротивления как нельзя лучше показывает важность общения с детьми, а не только обеспечение их материальными благами (дорогими планшетами, телефонами и другими вещами).

**Отсутствие смысла в просьбе.** Ребёнок не видит и не понимает смысла в том, о чём вы его просите. Сюда относятся классические просьбы: "сделай уроки", "почитай", "убери в комнате". Абстрактно дети понимают, что, например, перечисленные просьбы или иные ваши указания делать надо, но у них нет реального стимула заниматься этим прямо сейчас. Что делать? Для начала попытаться объяснить значимость просьбы и показать, насколько она будет полезна не только самому ребёнку, но и, например, всем членам семьи.

Знание причин уже значительно облегчит для вас ситуацию общения и позволит выстраивать здоровые отношения "родитель-ребёнок".

Мы с вами подошли к самому важному вопросу: как общаться с ребёнком, чтобы он вас услышал?

Итак, для начала **установите контакт с ребёнком**. Прежде чем озвучить свою просьбу, привлеките его внимание. Всё, что для этого нужно, – присесть на корточки перед ним так, чтобы ваши глаза находились на одном уровне. Займите ту же позу, какую обычно принимает ребёнок, когда вы слушаете его. Придайте вашему взгляду настойчивое, но не требовательное выражение, чтобы ребёнок воспринимал ваш разговор не как попытку контролировать его, а как налаживание контакта.

**Обращайтесь к ребёнку адресно.** Начинайте свою просьбу с имени ребёнка, например, "Саша, пожалуйста,..."

**Говорите кратко.** Фраза "краткость – сестра таланта" здесь будет очень к месту. Многословность – это нередкая ошибка многих родителей. Используйте правило одного предложения. Вложите в него основные указания к действию. Ведь чем дольше вы будете говорить, тем больше ребёнок останется "глух" к вашей просьбе. Более того, многословие дает ощущение ребёнку, что вы и сами не уверены в том, что именно вы хотите сказать.

**Используйте простые слова и формулировки.** Чётко определите, что именно вы хотите сказать ребёнку, – требование, просьба или предложение и, исходя из цели, выбирайте понятные слова и формулировки.

**Говорите негромко.** Общайтесь с ребёнком на полтона тише, чем говорите обычно. Помните, что слышат не тех, кто говорит громко, а тех, к кому хочется прислушаться.

**Будьте вежливы.** Даже обращаясь к двухлетке, не забывайте о слове "пожалуйста". Общайтесь уважительно. Говорите со своими детьми так, как вы хотите, чтобы они разговаривали с вами.

**Учитывайте психологию ребёнка.** Угрозы и осуждение приведут к тому, что ребёнок займет оборонительную позицию. Когда предложение начинается со слов "ты должен...", "тебе лучше сделать...", ребёнок закрывается. Попробуйте начать фразу с оборота "Я так рада, когда ты...". Это так называемые "Я-сообщения". В сообщениях такого типа не используются слова "ты, твоя, твои, тебе". Как только подобные слова используются в вашем обращении, ребёнок тут же закрывается. "Я-сообщения" – это не про запугать или заставить, это ключ к взаимопониманию и поиску компромисса.

**Пишите записки.** В возрасте 10-12 лет дети склонны принимать родительские указания и напоминания как назойливость. В этой ситуации вы можете поддерживать контакт с ребёнком и без того, чтобы что-то говорить. Общайтесь с детьми при помощи записок. Как минимум это забавно и весело.

Все вышеописанные принципы общения могут быть применимы и для общения со взрослыми: родственниками, друзьями или коллегами.

Конечно, предложенные правила требуют времени, сил и терпения, но, в отличии от директив и крика, укрепят отношения в семье. Мне кажется, это стоит того, чтобы попробовать общаться по-новому.



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 20 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

*Місевіч*
*Віктар Мар'янавіч*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

## На май прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў:

**1 мая** – **імяніны** адзначае кс. Алег Зямчонак (Віцебск); **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць: **кс. Андрэй Кулік** *(Мёры)*, **кс. Эдвард Нарадоўскі** *(Задарожжа)*, **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*, **кс. Эдуард Сінкевіч SCJ** *(Варапаева)*;

**2 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Чэслаў Курэчка MIC** *(Расія)*;

**3 мая** – **імяніны** адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** *(Ватыкан)*, **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*, **ксёндз-пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*, **ксёндз-пробашч Аляксандр Чайкоўскі** *(Наваполацк)*, **а. Аляксандр Жарнасек MIC** *(Расія)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Іван Кароткін** *(Дрысвяты)*;

**8 мая** – **імяніны** адзначаюць **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*, **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Віталь Бандаронак OFMCap** *(Докшыцы)*;

**9 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Лешак Вітвіцкі SDS** *(Слабодка)*;

**12 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Віктар Жук SJ** *(Віцебск)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Станіслаў Скрыдалевіч SAC** *(Талачын)*;

**13 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Марат Казлоўскі** *(Мосар)*, **біскуп Алег Буткевіч**, **ксёндз-канонік Вячаслаў Барок** *(Расоны)*, **кс. Ян Пугачоў** *(Германавічы)*, **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** *(Лепель)*, **а. Вальдэмар Куява OFMConv** *(Удзела)*;

**14 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Уладзімір Шымковіч** *(Орша, Дуброўна)*;

**15 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **ксёндз-канонік Віктар Місевіч** *(Віцебск)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*, **кс. Ігнат Санюта** *(Ірландыя)*, **кс. Міхал Татарэнка** *(Польшча)*;

**16 мая** – **імяніны** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Канстанцінава)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Андрэй Бочар MS** *(Далёкія)*;

**18 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **ксёндз-пралат Аляксандр Рагіня** *(Аргенціна)*;

**19 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Мікалай Ціхановіч** *(Глыбокае)*, **кс. Юрый Барок** *(Расоны)*;

**20 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*, **кс. Зэнон Шчонхар MS** *(Відзы)*;

**21 мая** – **імяніны** адзначае **кс. Яўген Шымановіч** *(Глыбокае)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Тамаш Міка OP** *(Віцебск)*;

**22 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*, **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*;

**23 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Ілля Саўчанка MIC** *(Орша)*, **кс. Яўген Шымановіч** *(Глыбокае)*;

**24 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Крыштаф Коц'ян OP** *(Віцебск)*;

**25 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**;

**26 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Эдвард Нардоўскі** *(Задарожжа)*; **імяніны** адзначае **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Уладзімір Шыдлоўскі SDS** *(Браслаў)*, **кс. Віталь Бяленік** *(Падсвілле)*;

**27 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **а. Зміцер Грышан** *(Віцебск)*;

**28 мая** – **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Адам Квяткоўскі SDS** *(Браслаў)*;

**29 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз-канонік Яцэк Хутман** *(Камаі)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **кс. Андрэй Вашчук SDS** *(Віцебск)*, **а. Яраслаў Банасяк OFMConv** *(Удзела)*;

**30 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Аляксандр Баран** *(Лынтупы)*; **імяніны** адзначае **кс. Генадзь Добрук** *(Гродзенская дыяцэзія)*; **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **а. Міхал Ермашкевіч OP** *(Сянно)*, **а. Дзмітрый Занямонскі OMI** *(Шуміліна)*;

**31 мая** – **дзень нараджэння** адзначае **біскуп на пенсіі Уладзіслаў Блін**, **гадавіну святарскага пасвячэння** адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч OMI** *(Шуміліна)*, **а. Пётр Ясевіч OFMCap** *(Ваўкалата)*, **ксёндз-пралат Францішак Кісель** *(Полацк)*, **кс. Аляксей Ляшко** *(Віцебск)*.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

# Унебаўшэсце Пана



**Хрыстос пасля свайго ўваскрасення неаднаразова аб'яўляўся вучням, а праз некаторы час узнёсся на неба.**

Ці памятаеце вы, калі і дзе адбылася гэтая падзея? Адкуль паходзіць выраз "Унебаўшэсце Пана"? Адказваючы на пытанні тэста, прыгадайце сабе, што вы ведаеце пра гэта.

Праверце свае веды, прайдзіце новы тэст "Каталіцка Веснiка".

**1** Месца, дзе адбылося Унебаўшэсце Хрыста?



**А.** Гара Табор
**Б.** Аліўная гара
**В.** Гара Сінай

**2** Праз колькі дзён пасля свайго ўваскрасення Езус на вачах сваіх вучняў узнёсся на неба?



**А.** Праз 9 дзён
**Б.** Праз 40 дзён
**В.** Праз 50 дзён

**3** Азначэнне "Унебаўшэсце Пана" паходзіць з апісання, перакazанага аўтарам "Дзеяў Святых Апосталаў" пра падзеі ўнебаўшэсця Хрыста. Хто гэты аўтар?



**А.** Св. Лука
**Б.** Св. Ян
**В.** Св. Якуб

**4** З якім святам ранні Касцёл спалучаў Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста?



**А.** Вялікдзень
**Б.** Спасланне Духа Святога
**В.** Перамяненне Пана

**5** Каму належаць словы: "Мужы Галілейскія! Што вы стаіце і глядзіце на неба? Гэты Езус, Што ўзнёсся ад вас на неба, прыйдзе гэтаксама, як вы бачылі Яго, калі ўзносіўся на неба" (Дз 1, 11)?



**А.** Пятру
**Б.** Анёлам
**В.** Дзеве Марыі

**6** У якіх кнігах Новага Запавету гаворыцца непасрэдна пра падзею Унебаўшэсця Пана?



**А.** Дзеі Святых Апосталаў, Евангелле ад Марка
**Б.** Дзеі Святых Апосталаў, Евангелле ад Лукі
**В.** Дзеі Святых Апосталаў, Евангелле ад Лукі, Евангелле ад Марка

**7** У якім з Евангелляў размешчана прадказанне аб Унебаўшэсці, якое Езус даў сваім вучням задоўга да сваёй крыжовай смерці?



**А.** Евангелле ад Яна
**Б.** Евангелле ад Лукі
**В.** Евангелле ад Мацвея

**8** Што сёння знаходзіцца на тым месцы, дзе, згодна з Традыцыяй Касцёла, адбылося Узнясенне Хрыста?



**А.** Музей гісторыі Ерусаліма
**Б.** Мужчынскі манастыр
**В.** Капліца Узнясення Хрыста

**9** Які наказ пакінуў Езус сваім вучням перад Унебаўшэсцем?



**А.** Абяцанне аб спасланні Духа Святога і прапаведаванні Евангелля ўсім народам
**Б.** Прадказаў кожнаму, хто якой смерцю памрэ, і заклікаў быць мужнымі
**В.** Заклікаў да навяртання і посту

**10** Перад знікненнем у глыбіні нябёсаў, згодна з Евангеллем ад Лукі, што зрабіў Езус?



**А.** Развітаўся, пацалаваўшы кожнага
**Б.** Заплакаў
**В.** Благаславіў апосталаў

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***



**Правільныя адказы на старонцы 16**

# “Міністр нябесных фінансаў” і мой добры сябра:

## айцец Пётр Бялевіч пра святога Юзафа



**Як вядома, у Касцёле працягваецца адмысловы Год св. Юзафа. Яго абвясціў Папа Францішак. З гэтай нагоды “Каталіцкі Веснік” паразмаўляў з місіянерам-аблатам Беззаганнай Марыі, айцом Пятром Бялевічам OMI і даведаўся пра значэнне асобы св. Юзафа ў жыцці святара.**

**– Айцец Пётр, распавядзіце некалькі слоў пра сябе.**

– Я нарадзіўся ў Польшчы ў 1966 годзе. Аднак мае бацькі родам з-пад Ваўкавыска. У сям’і я быў шостым дзіцём. Усіх нас было сямёра. Я прыехаў у Беларусь ужо дзевятнаццаць гадоў таму. Можна сказаць, што вярнуўся служыць на радзіму. Зараз я з’яўляюся адказным за будаўніцтва касцёла ў Мінску, у парафіі св. апосталаў Пятра і Паўла і св. Яўгена дэ Мазэно ў Зялёным Лузе.

**– Вы штогод ствараеце хрысціянскія штодзённікі. А як пачыналася праца над гэтым?**

– Аднойчы, будучы ў Мінску, мы пайшлі ў посную пілігрымку на хлебе і вадзе ў Будслаў. Я быў духоўным айцом пілігрымкі. Адбылося гэта ў 2010 годзе. Сярод паломнікаў з намі ішла жанчына Марыя. Яе дачка тады вучылася на праграміста. І яна ўвесь час хвалілася сваім дзіцём, расказваючы, якая дзяўчына мудрая, як яна добра разумее ў камп’ютарах. Тады я спытаў, што б яна магла зрабіць для Касцёла. Жанчына адказала: “Шмат чаго можа зрабіць. І намаляваць, і выдаць”. Калі я пачуў, што можна штосьці выдаць, адразу пазнаёміўся з гэтай дзяўчынай Анастасіяй. Я паказаў ёй каталіцкі штодзённік на польскай мове і спытаў, ці атрымаецца стварыць нешта падобнае па-беларуску. Атрымаўшы станоўчы адказ, пачалі працу над першым выданнем. Зараз ужо маем адзінаццаць выданняў штодзённікаў.



**– А дзе выдаюцца штодзённікі?**

– Сёння я з’яўляюся дырэктарам выдавецтва Пінскай дыяцэзіі, дзе і выдаецца штодзённік.

**– Праца над стварэннем штодзённіка не з лёгкіх. Хто дапамагае Вам?**

– Цяпер разам са мною працуе верніца Вольга, яна выконвае найбольш працы. Ёсць яшчэ валанцёры Алена, Марыя, Вікторыя. Каманда ў нас невялікая, аднак я лічу, што мы робім вялікія і якасныя рэчы.

**– Як і калі ў Вас узнікла ідэя стварыць такі штодзённік, прысвечаны менавіта св. Юзафу?**

– У Бога няма нічога выпадковага. Ён усё ведае наперад. Асабіста я і мае супрацоўнікі “сябруем” са святымі. І сярод іх, можна сказаць, на першым месцы святы Юзаф. Для мяне святыя – сябры. І цікавым з’яўляецца тое, што наша праца – і будоўля, і выдавецтва – гэта рэчы, звязаныя з грашыма. А св. Юзаф, як мне калісьці сказаў адзін свецкі мужчына, з’яўляецца “міністрам” нябесных фінансаў. Ён быў галавой сям’і і зарабляў грошы. Таму мы даручаем гэтаму святому свае справы ў пабудове, а таксама іншыя праекты.

Чаму мы зрабілі штодзённік у 2021 годзе менавіта пра св. Юзафа? Будоўля касцёла распачалася 5 снежня 2019 года. І ўявіце сабе, што за тры месяцы пабудавалі падмурак і падвальны паверх нашай святыні. І праца працягвалася далей. Святы Юзаф вельмі дапамагаў. Тады супрацоўніца Вольга падала ідэю стварыць штодзённік, прысвечаны гэтаму святому як знак удзячнасці. У 2020 годзе мы ўжо працавалі над выданнем на будучы год. Штодзённік надрукавалі ў жніўні. І ў верасні наша каманда паехала ў першыя парафіі з распаўсюджваннем.

Тады мы яшчэ не ведалі, што Папа Францішак абвесціць у Касцёле адмысловы Год св. Юзафа.

Зараз я вельмі ганаруся, што мы адзіныя ў свеце на самым пачатку пасля абвяшчэння святога Юзафа асаблівым заступнікам паўсюднага Касцёла ўжо мелі і каляндар, і разважанні.

**– Год святога Юзафа будзе працягвацца да 8 снежня сёлета. Ці плануеце выдаваць штосьці яшчэ, акрамя штодзённіка?**

– Так. Цяпер мы зрабілі яшчэ адзін праект: 30-цідзённае набажэнства да св. Юзафа. Папа Францішак звярнуў увагу, што гэты святы з’яўляецца апекуном менавіта ў цяжкія часы. І можам таксама сказаць, што гэтае набажэнства для тых, каму цяжка.

Дарэчы, хацелася б запрасіць вас, дарагія чытачы, на мае катэхезы, якія я праводжу на “Радыё Марыя”. Для дзяцей катэхезу пад назвай "Добра, што ты ёсць!" можна пачуць кожны панядзелак аб 11.10. Для сем’яў катэхезу пад назвай “Мужчынам і жанчынай стварыў іх” можна слухаць кожную пятніцу аб 11.10.

Дык вось, у адной такой катэхезе на радыё я расказваў дзецям пра Юзафа Егіпецкага, які зрабіў вялікі запас зярна. Калі ж ва ўсім свеце быў голад, усе казалі: “Ідзіце да Юзафа”. І ён уратаваў жыццё ўсяму выбранаму народу. І зараз Папа таксама гаворыць: “Ідзіце да св. Юзафа. У бядзе, у горы, у няшчасці”... Мне б вельмі хацелася, каб гэтая невялічкая кніжачка з набажэнствам патрапіла ва ўсе парафіі Беларусі.

**– Што б Вы параілі чытачам “Каталіцкага Весніка” у Год святога Юзафа?**

– Зусім нядаўна Папа Францішак заклікаў вернікаў да больш глыбокага вывучэння літаратурнай спадчыны святой Тэрэзы Авільскай. І цікавы той факт, што гэтая законніца вельмі “сябравала” са св. Юзафам. Яна заснавала шмат кляштараў. І ўсе свае справы аддавала пад яго апеку. Гэта сапраўдны праклад.

Можна сказаць, што я за тое, каб людзі “сябравалі” са святымі. Я сам вельмі “сябрую” са св. Юзафам. І Вас, паважаныя вернікі, я шчыра заклікаю да такога “сяброўства”. Святы Юзаф не здрадзіць ніколі і дапаможа ў кожнай справе.

*Гутарыла*
***Ірына Радзевіч***





# Успамінаем з вялікай удзячнасцю...

**9 мая 2012 года ва ўзросце 57 гадоў памёр ксёндз Уладас Пятрайціс – шматгадовы пробашч Мёрскай парафіі, пазней пробашч Слабодкаўскай парафіі і адміністратар Іказненскай парафіі.**

9 гадоў мінула, а ўспаміны пра ксяндза Пятрайціса заўсёды цёплыя, заўжды згадваем яго з вялікай удзячнасцю.

Сваім самаахвярным служэннем гэты святар упісаў яскравыя старонкі ў слаўную гісторыю Мёршчыны. Ксяндзу У. Пятрайцісу было дадзена выпрабаванне: несці людзям Хрыста ў час, калі ў нас лютаваў ваяўнічы атэізм. Тэрыторыя яго святарскай дзейнасці была вялікай. На Мёршчыне дзейнічалі дзве святыні: непасрэдна ў Мёрах і ў Ідолце. Каля дзесяці парафій тады не мелі ні святароў, ні святынь, і людзі са сваімі духоўнымі патрабаваннямі звярталіся да кс. Пятрайціса. І ён аддана служыў усім, забываючы пра адпачынак.

Ксяндза Уладаса Пятрайціса вельмі шанавала грамадскасць Мёрскага краю, ён быў абсалютным аўтарытэтам для людзей.

Мы ўзгадваем свайго душпастыра як здольнага арганізатара і як чалавека адкрытага, светлага і простага, адданага служэнню. Ён быў святаром, які выслухоўваў усіх, які ўмеў слухаць. Хто б да яго ні звяртаўся, ведаў, што можна разлічваць на яго дапамогу. Пры сустрэчы ксёндз заўсёды быў вясёлы і поўны аптымізму, дарыў спакой і радасць сваім вернікам. Гэты быў вельмі пазітыўны чалавек, адкрыты да дыялогу, які выклікаў вялікую сімпатыю.

У яго былі вельмі адметныя і глыбокія казанні. Ён меў бясспрэчную харызму, якая вельмі адчувалася, калі ксёндз, асветлены ўсмешкай, з амбона прамаўляў такія шчырыя, мудрыя, павучальныя святочныя словы навукі.

Актуальнымі і сёння з'яўляюцца словы святара: "Знайсці Бога – гэта не вельмі цяжка. Толькі не трэба шукаць яго недзе ў пазаземных сферах, у космасе. Бога трэба шукаць у сваім сэрцы, у сваіх сябрах, у бацьках, таму што ў кожным чалавеку ёсць Бог, і калі вы творыце дабро – вы набліжаецеся да Яго".

Ксёндз Уладас застаўся ў памяці вернікаў як уважлівы і міласэрны спаведнік, заўжды гатовы дапамагчы вырашаць духоўныя праблемы.

Няхай памяць пра ксяндза Уладаса Пятрайціса, пра павагу да яго, захаваецца ў свядомасці не толькі жыхароў Мёрскай зямлі, але і ў як мага найшырэйшага кола людзей, што мелі магчымасць ведаць ксяндза і пачуць яго малітвы.

Просім, каб міласэрны Хрыстус узнагародзіў ксяндзаканоніка Уладаса Пятрайціса ў сваім Валадарстве!

Вечны адпачынак дай яму, Пане!..

*Ад імя вернікаў,*
***Алена Сакалоўская***

# Stella splendens,
## або Песня-танец з гары Мансэрат

**Напэўна, у кожнага народа ці рэгіёна ёсць святыя месцы, што з'яўляюцца іх духоўнай сталіцай, сімвалам адзінства ў веры, месцы, куды ідуць пілігрымкі, куды хрысціяне нясуць свае малітвы і праслаўленні Бога.**

■ **с. Дар'я Галубкова OV**, *тэкст і відэа*

Для нас, беларусаў, – гэта санктуарый у Будславе, для палякаў – Чэнстахова, а для жыхароў Каталоніі – кляштар Мансэрат, што знаходзіцца за 40 кіламетраў на паўночны захад ад Барселоны. 27 красавіка тут адзначаецца свята Маці Божай – Мадонны з Мансэрат.

У старажытным бенедыктынскім кляштары, які размясціўся на стромкім горным масіве Мансэрат (*Montserrat*), што азначае "Шчарбатая гара", знаходзіцца цудатворная фігура Маці Божай, так званай Чорнай Мадонны. Мясцовыя называюць яе ласкава *La Moreneta* (Смугляначка). Справа ў тым, што твары Панны Марыі і Дзіцятка Езуса з цягам часу афарбаваліся ў чорны колер. Паводле адной з версій, гэта адбылося ў выніку акіслення лаку, якім яны пакрытыя, паводле іншай – яны пачарнелі ад сажы: вернікі пастаянна запальвалі перад фігурай свечкі і аліўныя светачы.

Легенда гаворыць, што цудоўную фігуру зрабіў святы Евангеліст Лука ў Ерусаліме, а ўжо каля 50-га года ў Каталонію яе прывёз сам святы Пётр. Яна ўяўляе Панну Марыю, Якая сядзіць на троне і трымае ў руцэ зямны шар на знак таго, што Найсвяцейшая Маці атуляе ўвесь свет сваёй любоўю. У Яе на каленях сядзіць Езус з хваёвай шышкай у руках – знакам вечнага жыцця. У 1881 г. Папа Леў XIII укаранаваў фігуру папскімі каронамі і абвясціў Маці Божую з Мансэрат Апякункай Каталоніі.

На месцы пакланення Маці Божай на гары Мансэрат з самага пачатку адбывалася шмат цудаў, і ўжо з канца IX ст. тут пачалі сяліцца пустэльнікі. Пасля Рэканкісты – вызвалення Іспаніі з-пад арабскага прыгнёту – тут узнік кляштар ордэна бенедыктынцаў. Хутка Мансэрат стаў не толькі адным з галоўных месцаў паломніцтва, але і рэлігійным, культурным цэнтрам Каталоніі. У XI ст. тут з'явіўся скрыпторый, а таксама славутая бібліятэка, якая цяпер налічвае каля 300 тыс. кніг і манускрыптаў на розных мовах. З 1499 года тут дзейнічае друкарня, адна з першых у свеце, а ў 1920 г. у базіліцы паўстаў музей, дзе знаходзяцца вядомыя карціны іспанскіх і замежных мастакоў.

У 1811 г. войскі Напалеона амаль ушчэнт знішчылі кляштар. Фігура Маці Божай, схаваная парафіянамі, ацалела цудоўным чынам. Кляштар і базіліка былі адбудаваныя ў 1874 г. У іх аднаўленні прымаў удзел у тым ліку сусветна вядомы архітэктар, тады яшчэ зусім малады, Антоніа Гаўдзі. Сапраўднай апорай каталонскай нацыянальнай самасвядомасці кляштар Мансэрат стаў у ХХ ст.: падчас дыктатуры Франсіска Франка, які між іншым забараніў ужыванне каталонскай мовы, гэта было адзінае месца, дзе на ёй праводзіліся набажэнствы і шлюбныя цырымоніі. Гара Мансэрат зрабілася месцам ратунку для мастакоў, вучоных, артыстаў і студэнтаў, якія належалі да каталонскага руху супраціву і якіх пераследавала паліцыя. Але і самі манахі-бенедыктынцы палі ахвярамі рэжыму: у часе грамадзянскай вайны там былі забітыя 22 манахі.

У вышэйзгаданай бібліятэцы кляштара Мансэрат ёсць сапраўдная пярліна – рукапіс 14 ст. *Llibre Vermell de Montserrat* (Чырвоная кніга Мансэрат). Назва паходзіць ад аксамітнай вокладкі пунсовага, яркачырвонага колеру, якая была зробленая ў XIX ст. Акрамя звестак пра жыццё кляштара і арганізацыю пілігрымак, у рукапіс уваходзіць некалькі старонак з музычнымі матэрыяламі. Сярод іх – нотны запіс *Stella splendens* (Зіхатлівая Зорка) – песнітанца, які суправаджаў працэсію вернікаў да месца пакланення Маці Божай з гары Мансэрат.

Чаму гэты твор быў уключаны ў манускрыпт? Адказ можна знайсці там жа: "Паколькі здараецца, што пілігрымы, праводзячы ночы ў касцёле Панны Марыі з Мансэрат, часам жадаюць спяваць і танцаваць, а часам нават удзень на касцельнай плошчы, дзе могуць выконвацца толькі цнатлівыя і пабожныя спевы, то некаторыя адпаведныя спевы былі запісаныя тут для гэтай патрэбы. І яны павінны выконвацца ў паважнай і сціплай манеры, каб не турбаваць тых, хто працягвае маліцца." Такім чынам, пілігрымы танчылі і спявалі, чуваючы пры базіліцы. Ці ж не нагадвае гэта танцы і спевы пілігрымаў у Будславе?

Танец *Stella splendens* выконваецца паважна і спакойна, але адначасова імкліва і рытмічна. Варты ўвагі і сам тэкст спеву, які суправаджае танец. У ім гаворыцца, што розныя людзі – заможныя і бедныя, шляхта і просты народ, старыя і маладыя, вернікі розных прафесій, свецкія, манахі і святары – усе імкнуцца да Панны Марыі, каб пакланіцца Ёй і праславіць Бога. Усе радасна ўсклікаюць *Ave Maria* і вяртаюцца, напоўненыя ласкай. Размываюцца межы паміж рознымі саслоўямі і станамі, бо перад Богам усе роўныя.

*Stella splendens in monte ut solis radium miraculis serrato exaudi populum!* (Зорка, якаяззяе на гары, падобная да цудоўнага сонечнага промня, выслухай свой народ!)

Паслухаць спеў і падглядзець рухі танца *Stella splendens* можна на відэа, перайшоўшы паводле QR коду. Танец выконваюць чальцы клуба гістарычнай рэканструкцыі "Паўночная Вежа" з г. Віцебска.



# Каляндар на май

Месяц май у Каталіцкім Касцёле асаблівым чынам прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшай Панны Марыі праз так званыя "маёвыя набажэнствы". Цэнтральнаю часткаю маёвага набажэнства з'яўляецца Ларэтанская Літанія – адзін з найпрыгажэйшых гімнаў на ўшанаванне Найсвяцейшай Панны Марыі. У ім Касцёл праслаўляе вялікія цноты і прывілеі, якімі Бог адарыў сваю верную Слугу. Літанія ўзнікла ў XII ст., хутчэй за ўсё, у Францыі, і была афіцыйна зацверджаная Папам Сікстам V. Назва "Ларэтанская" паходзіць ад італьянскага мястэчка Ларэта, дзе месціцца адна з найвялікшых марыйных святыняў – домік з Назарэта, у якім Марыі з'явіўся Анёл Габрыэль. Менавіта там літанія набыла вельмі вялікую папулярнасць у вернікаў. Заахвочваем вас, шаноўныя чытачы, да актыўнага ўдзелу ў маёвых набажэнствах, прысвечаных Божай Маці.





**1 мая – успамін св. Юзафа, рамесніка.**

Святы Юзаф з'яўляецца ўзорам хрысціяніна ў выкананні хатніх і прафесійных абавязкаў. Працаваў ён у пастаяннай супольнасці з Езусам і Марыяй. Таму хрысціянін павінен памятаць, што, працуючы, ён выконвае Божы наказ "...рабіце зямлю сабе падпарадкаванай", а таксама рыхтуецца да жыцця вечнага. Усе звесткі пра жыццё святога, якіх, на жаль, няшмат, мы знаходзім у Евангеллі паводле Мацвея і паводле Лукі. Святы Юзаф быў абвешчаны апекуном Сусветнага Касцёла, а таксама з'яўляецца апекуном тых, хто памірае, нарачоных і працаўнікоў.



**3 мая – свята св. Філіпа і Якуба, апосталаў.**

У пераліку апосталаў Філіп з'яўляецца пятым. Ён быў вучнем святога Яна Хрысціцеля і паходзіў з Бэтсаіды, што на Генісарэцкім возеры, дзе працаваў рыбаком. Там яго сустрэў Езус і паклікаў у супольнасць дванаццаці апосталаў. Пасля ўваскрасення Хрыста Філіп спачатку вёў місіянерскую дзейнасць у сябе на радзіме, а пазней накіраваўся ў Фрыгію (Малая Азія), дзе навярнуў і ахрысціў шмат паганцаў. Там каля 80 г. ва ўзросце 87 гадоў апостал прыняў мучаніцкую смерць: быў прыбіты да крыжа і закіданы камянямі.

Якуб Меншы (Малодшы) быў сынам Клеафаса і Марыі, сястры Найсвяцейшай Панны Марыі. Розныя крыніцы называюць яго таксама першым біскупам Ерусаліма. У 62 г. першасвятар Анна асудзіў Якуба на смерць, і апостала скінулі са сценаў святыні, пасля чаго яго дабіў нейкі гарбар. Рэліквіі абодвух святых спачываюць у Рыме, у базыліцы Дванаццаці Апосталаў. Святыя Філіп і Якуб лічацца апекунамі капялюшнікаў, крамнікаў, гарбароў.



**13 мая – урачыстасць Унебаўшэсця Пана.**

Пасля свайго ўваскрасення Езус Хрыстус з'яўляўся сваім вучням, а праз 40 дзён на іх вачах узнёсся на неба з Аліўнай гары. Азначэнне "Унебаўшэсце Пана" паходзіць з апісання, пераказанага св. Лукой у Дзеях Святых Апосталаў (Дз 1, 9-11). Урачыстасць Унебаўшэсця Хрыста ранні Касцёл злучаў з таямніцай Спаслання Святога Духа на Апосталаў. Гісторыя літургіі ведае названую ўрачыстасць з IV ст. Гэта вялікае хрысціянскае свята, таму Касцёл заклікае ўсіх вернікаў устрымацца ад выканання цяжкай працы.



**14 мая – свята св. Мацвея, апостала.**

Да паклікання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпце і Эфіопіі. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.



**23 мая – урачыстасць Спаслання Святога Духа.**

Пяцідзясятніца – урачыстасць Спаслання Святога Духа, якая адзначаецца ў пяцідзясяты дзень пасля Вялікадня (у нядзелю праз сем тыдняў). Назва паходзіць ад старажытнагабрэйскага свята Пяцідзясятніцы, якое адзначалі на ўспамін пра дараванне Богам закона на гары Сінай. Гэтае старазапаветнае свята з'яўляецца праобразам спаслання апосталам і ўсім хрысціянам Святога Духа.

Святкаванне дня Спаслання Святога Духа пачынаецца яшчэ ў апостальскія часы, але афіцыйна гэтае свята ўвайшло ў хрысціянскі каляндар у канцы IV ст., калі быў прыняты дагмат аб Найсвяцейшай Тройцы.

У хрысціян захавалася старазапаветная традыцыя ўпрыгожваць у гэты дзень святыні і дамы зялёнымі галінкамі бярозы, дуба і кветкамі, што сімвалізуе веру ў жыватворную сілу Духа. Акрамя таго, гэтая традыцыя таксама нагадвае нам мамрыйскі дуб, дзе патрыярха Абрагама наведала Найсвяцейшай Тройца ў постацях трох падарожнікаў (Быц. 18, 1–16).

Свята Спаслання Святога Духа – падзея першаступеннай важнасці ў жыцці Касцёла, бо яна завяршае ўтварэнне Касцёла Хрыстовага і сцвярджае таямніцу святасці. У гэты дзень, калі Святы Дух сышоў на апосталаў у выглядзе вогненых языкоў, апосталы ўмацаваліся ў сваёй веры, атрымалі моц для сусветнага прапаведавання Евангелля. У гэтай незвычайнай падзеі раскрываецца сутнасць нашай веры ў "адзіны святы каталіцкі апостальскі Касцёл".

Касцёл адзіны на вобраз таго, што апосталы ў дзень Пяцідзясятніцы былі адзінадушна разам у малітве. Святасць Касцёла вызначаецца тым, што пад натхненнем Святога Духа ён сведчыць пра Хрыста. Каталіцкі (што абазначае паўсюдны) Касцёл – таму што Евангелле прызначана для ўсіх народаў, менавіта з гэтай прычыны ад самага пачатку Святы Дух дае Касцёлу дар разумення іншых моў. Касцёл Апостальскі – таму што заснаваны на падмурку апосталаў, ён верна захоўвае іх (апостальскае) навучанне сродкамі непарыўнай пераемнасці біскупаў.

Па сваёй прыродзе Касцёл місійны, а гэта значыць, што пры садзеянні Святога Духа заклікаяны распаўсюджваць Евангелле ва ўсім свеце. Таму абавязкам кожнага хрысціяніна таксама з'яўляецца абвяшчэнне Добрай Навіны іншым людзям.





**24 мая – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла.**

Кангрэгацыя Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў пастанавіла ўнесці літургічны ўспамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла, у Агульны рымскі каляндар, зацвердзіўшы яго такім чынам ва ўсім Рыма-Каталіцкім Касцёле. Як падкрэсліваецца ў дэкрэце, падпісаным прэфектам згаданай Кангрэгацыі кардыналам Рабэрам Сара 11 лютага 2018 года, ва ўспамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда, Марыя як клапатлівая Правадырка Касцёла ў момант яго нараджэння распачала сваю матчыну місію ўжо ў вячэрніку, дзе малілася разам з апосталамі ў чаканні спаслання Святога Духа (пар. Дз 1, 14). Невыпадкова са старадаўніх часоў хрысціяне пабожна ўшаноўвалі Марыю, называючы Яе Маці вучняў, вернікаў, усіх тых, хто адраджаецца ў Хрысце, а таксама Маці Касцёла, пра што сведчаць тэксты касцельных аўтараў і вучэнне Папаў Бэнэдыкта XIV і Льва XIII. На гэтай падставе блаславёны Павел VI на заканчэнне Трэцяй сесіі Другога Ватыканскага Сабору 21 лістапада 1964 года абвясціў Марыю “Маці Касцёла, гэта значыць, усяго хрысціянскага народа, як вернікаў, так і пастыраў, якія называюць Яе любай Маці”, і заклікаў, каб “увесь хрысціянскі народ штораз больш ушаноўваў Божую Маці гэтым салодкім імем”.

У сувязі з гэтым у Рымскім Імшале з’явіўся фармуляр ватыўнай Імшы пра Найсвяцейшую Панну Марыю, Маці Касцёла, а пазней гэты тытул Багародзіцы быў дададзены таксама ў Ларэтанскую літанію. Акрамя таго, адпаведная літургічная цэлебрацыя з дазволу Святога Пасаду ўвайшла ва ўласныя календары паасобных краінаў, дыяцэзій і манаскіх сем’яў. Святы Айцец Францішак палічыў, што далейшае распаўсюджванне гэтага культу можа дапамагчы пастырам, кансэкраваным асобам і ўсім вернікам лепш успрымаць Касцёл як маці, а таксама паспрыяе развіццю сапраўднай марыйнай пабожнасці.

Таму ён вырашыў уключыць успамін Найсвяцейшай Панны Марыі, Маці Касцёла, у Агульны рымскі каляндар, прызначыўшы штогадовым днём яго адзначэння панядзелак пасля ўрачыстасці Спаслання Духа Святога.



**27 мая – свята Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.**

Свята ўстаноўлена Папам Бэнэдыктам XVI і з’яўляецца плёнам Года святарства, які праходзіў у Каталіцкім Касцёле з 19 чэрвеня 2009 па 11 чэрвеня 2010 г. Устанаўліваючы гэтае свята, Святы Айцец выказаў жаданне, каб яно адзначалася ў чацвер пасля нядзелі Спаслання Духа Святога. Чацвер традыцыйна лічыцца “святарскім” днём, бо менавіта ўвечары ў чацвер Хрыстус напярэдадні сваёй мукі і крыжовай смерці спажыў з апосталамі Апошнюю Вячэру, на якой устанавіў сакрамант Эўхарыстыі і службовае святарства, што адрозніваецца ад паўсюднага святарства Божага народа асаблівым удзелам у святарстве Хрыста тых, хто прымае сакрамант пасвячэнняў у сане прэзбітараў або біскупаў.



**30 мая – урачыстасць Найсвяцейшай Тройцы.**

Праўда пра Бога Адзінага ў Тройцы – адна з найбольшых таямніцаў хрысціянства, якую нельга спасцігнуць да канца. Існаванне Святой Тройцы з’яўляецца дагматам нашай веры. Урачыстасць святкуецца ў першую нядзелю пасля Спасланная Святога Духа. Афіцыйна ўрачыстасць увайшла ў хрысціянскі каляндар у канцы IV стагоддзя, калі на Другім Сусветным Саборы ў Канстанцінопалі (381 год) Касцёл прыняў дагмат аб Святой Тройцы. Фактарамі, якія спрыялі зараджэнню ўрачыстасці ўжо ў старажытным Касцёле, былі хрысталагічныя спрэчкі IV-V стагоддзяў і барацьба з арыянствам на германскіх землях у V-VI стагоддзях. Вылучэнне ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы ў асобнае свята адбылося па рашэнні Папы Яна XXII ў 1334 годзе, аднак у Імшал урачыстасць ўвайшла толькі пасля Трыдэнцкага Сабору (1570 года).



**31 мая – свята Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Святкаванне Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі мае сярэднявечнае паходжанне. Свята адзначалася францішканскім ордэнам яшчэ да 1263 года, калі яно было прапанавана св. Банавентурам. Дзякуючы ўплыву з боку францішканскага ордэна свята распаўсюджвалася, але афіцыйна зацверджана Касцёлам было толькі ў 1389 годзе па загадзе Папы Урбана VI. Сустрэчу Дзевы Марыі і святой Альжбеты, якая адбылася праз некалькі дзён пасля Звеставання, апісвае ў Святым Пісанні евангеліст Лука. Найсвяцейшая Панна Марыя, даведаўшыся, што яе сваячка Альжбета ў хуткім часе павінна нарадзіць, вырушае ў шлях, у “горад Юды”. Марыя пераадольвае гэты шлях не адна, разам з ёй Бог, Які знаходзіцца ва ўлонні. Гэта было першае падарожжа маленькага Езуса Хрыста. Увайшоўшы ў дом, Марыя прывітала Альжбету. Пачуўшы прывітанне, Альжбета напоўнілася Духам Святым і даведалася, што Марыя стала маці Бога. Яна гучна ўсклікнула: “Блаславёная ты між жанчынамі і блаславёны плод улоння Твайго! І адкуль мне гэта, што Маці Пана майго прыйшла да мяне?” Словы прывітання Альжбеты ўвайшлі ў склад вядомай хрысціянскай малітвы “Вітай, Марыя”.

У адказ на словы Альжбеты Марыя праславіла Бога, кажучы: “Велічае душа мая Пана, і ўзрадаваўся дух мой у Богу, маім Збаўцы. Бо ўзглянуў Бог на пакору сваёй слугі, і цяпер блаславіяць мяне будуць усе пакаленні. Бо вялікае ўчыніў мне Усемагутны, а імя Яго святое. І міласэрнасць Яго з пакалення ў пакаленне над тымі, хто Яго баіцца. Паказаў моц сваёй правіцы, рассеяў тых, хто пыхлівы сэрцам. Скінуў магутных з трону і ўзвысіў пакорных. Дабром галодных насыціў, а багатых ні з чым адправіў. Прыняў свайго слугу Ізраэля, памятаючы пра сваю міласэрнасць, як абяцаў бацькам нашым, Абрагаму і яго патомству навекі” (пар. Лк. 1, 46-55).

Гэтае праслаўленне Марыяй Пана стала хрысціянскім гімнам, які вядомы пад назвай “Magnificat” (што і азначае “велічае” па першым слове Маці Божай).

## Новая вялізная фігура Хрыста будзе большай, чым у Рыа-дэ-Жанейра

**У горадзе Энкантада на поўдні Бразіліі будуецца гіганцкая статуя Хрыста-Заступніка, якая будзе вышэйшая за сусветна вядомую статую Хрыста-Адкупіцеля ў Рыа-дэ-Жанейра, паведамляе onet.pl.**

Хрыстус-Абаронца ў Энкантада будзе вышынёй 43 метры (статуя Хрыста ў Рыа – 38 метраў). У цэнтры фігуры будзе размешчаны ліфт, які падыме наведвальніка для агляду на вышыню каля 40 метраў.

Аднак гэта будзе не самая высокая фігура Хрыста ў свеце. Найвышэйшы – Хрыстус у польскім Свебодзіне, які мае разам з асновай 52,5 метра ў вышыню, як і фігура Езуса на інданезійскім востраве Сулавесі (Цэлебес).

Будаўніцтва фігуры ў Энкантада распачалі ў 2019 годзе па ініцыятыве мясцовага палітыка Адраальда Канзаці, які памёр у сакавіку гэтага года пасля заражэння каранавірусам. Як і той, што ў Рыа, Хрыстус стаіць з раскінутымі рукамі.



Па словах чальцоў Асацыяцыі сяброў Хрыста, рэалізацыя праекта, кошт якога складае каля 350 тысяч даляраў, павінна скончыцца да канца гэтага года. Будаўніцтва фінансуецца за кошт сродкаў прыватных асобаў і кампаній.



## Хвала Хрысту!

*11 красавіка, у нядзелю Божай Міласэрнасці, у адпустовую ўрачыстасць для катэдральнай парафіі, наш пробашч **ксёндз-канонік Валерый Орсік** адзначыў юбілейны дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Валеры!*

*Шчыра віншуем Вас з народзінамі! Жадаем моцнага здароўя, невычэрпнай энергіі, мэтанакіраванасці, разважлівасці і адкрыцця новых талентаў для вялікіх і маленькіх перамог у галоўнай справе Вашага жыцця – здабыванні свету для Пана Бога! Няхай праз Вашае служэнне людзі сустракаюцца з сапраўднай дабрынёй, міласэрнасцю, радасцю і любоўю! Молімся, каб Добры Бог адарыў Вас патрэбнымі ласкамі для плённай працы і паслаў Вам зычлівых людзей на шляху!*

***З найлепшымі пажаданнямі, парафіяне катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага (Віцебск)***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

***Паважаны ксёндз Валеры Орсік!** Шчыра віншуем Вас з нагоды 40-годдзя з дня нараджэння!*

*Няхай кожную раніцу Пан Бог благаслаўляе Вас і пасылае з нябёсаў ласкавае, лагоднае сонейка, а ўсмешка хай з'яўляецца на Вашым твары! Жадаем, каб сілы, энергія і здароўе спадарожнічалі Вам на працягу ўсяго святарскага служэння, а побач былі добразычлівыя людзі! Хай Маці Божая апякуецца Вамі, кожны дзень моліцца за Вас перад Божым тронам, прытуляе да свайго сэрца з мацярынскай любоўю!*

*Мы заўсёды молімся за Вас. Сто гадоў, паважаны наш ойча!*

***З удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Св. Айца Піа ў Лёзне***

## Хвала Хрысту!

*11 красавіка адзначыў свой дзень нараджэння **ксёндз-канонік** віцебскага катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага **Валерый Орсік**.*

*Самыя шчырыя віншаванні і пажаданні мы дасылаем свайму былому пробашчу парафіі Беззаганнага Сэрца Дзевы Марыі ў г. Орша, дзе ён пакінуў пра сябе незабыўную памяць: пабудаваў касцёл і трывала ўмацаваў у нашай свядомасці хрысціянскія традыцыі.*

*Ад шчырага сэрца жадаем моцнага здароўя, многа сілы і цярпення ў працы на няпростай ніве святарства, добразычлівых людзей і ажыццяўлення творчых планаў! Няхай Святы Дух асвячае святлом кожны Ваш дзень, а Маці Божая хай моліцца за Вас і атуляе мацярынскай любоўю!*

*Сардэчна дзякуем за служэнне ў нас, за Вашу шчырую ўсмешку, за добрыя словы, за пастаянную падтрымку, за малітву і за данясенне да нашых сэрцаў Божага слова! Мы ўдзячныя Вам, шаноўны ксёндз Валерый, за гады, праведзеныя з намі, заўжды памятаем Вас ва ўсіх нашых малітвах!*

***З павагай, Кацярына Салаўёва***

## Дарагі “Каталіцкі Веснік”!

Я вельмі хачу, каб на старонках газеты расказалі пра святара з Відзаў, які служыў там у 1990-м годзе. У тыя гады рамантавалі касцёл, але ксёндз знаходзіў час прыйсці ў бальніцу, паспавядаць хворых. Сярод іх была і мая мама. Яна памерла 1 лютага 1990 года. Я таксама тады прыступіла да споведзі. Пра гэтага ксяндза гаварылі, што ён пацярпеў у часы сталінскіх рэпрэсій, быў сасланы на Поўнач, але вынес усе пакуты. У час распаду СССР яго перавялі служыць у Літву.

Сустрэча з чалавекам глыбокай веры ў Бога запомнілася назаўжды. Ён быў супраць абортаў, гаварыў, што гэта найвялікшы грэх – забойства ненароджанага дзіцяці. Ён для мяне застаўся ў памяці як святы.

***Ірына Філановіч, г. Паставы***

**Ад рэдакцыі.** Запрашаем нашых шаноўных чытачоў з Відзаў падзяліцца сваімі ўспамінамі пра ксяндза Пятра Уліцкага, які вёў душпастырскую паслугу ў Відзах у 1989-1992 гадах.

## Хвала Хрысту!



*13 красавіка ў нашага паважанага **святара Сяргея Сурыновіча** быў Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Сяргей! Сардэчна віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем Вам Божай ласкі і моцнага здароўя! Няхай агеньчык дабрыні да ўсіх людзей, запалены Панам Богам у Вашым сэрцы, гарыць праз усё Вашае святарскае жыццё!*

*Дзякуем Пану Богу, што паслаў Вас абвяшчаць нам Божае слова, сеяць дабро і несці супакой у нашыя сэрцы!*

*Няхай Пан Бог дапамагае Вам у штодзённых душпастырскіх клопатах, благаслаўляе, напаўняе энергіяй, сіламі і радасцю, а Дух Святы хай натхняе на доўгую і плённую святарскую службу! Няхай Найсвяцейшая Панна Марыя – Маці ўсіх святароў – падтрымлівае Вас на святарскім шляху і пяшчотна туліць да свайго Матчынага сэрца! Шчасці Вам, Божа!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

## Хвала Хрысту!

***Шаноўны ксёндз Сяргей Сурыновіч!** Шчыра віншуем Вас з днём 45-годдзя!*

*Жадаем Вам духоўных і фізічных сіл, моцнага здароўя, шчодрай Божай дапамогі, апекі Маці Божай, творчага натхнення!*

*Дзякуем за Вашу шчырую малітву ў нашых інтэнцыях, за кожны дзень служэння Касцёлу і людзям!*

*Жадаем моцнага здароўя Вашым бацькам, родным і блізкім.*

***З павагай, вернікі капліцы Святога Юзафа ў Друйску***



## Хвала Хрысту!

*Паважаная рэдакцыя газеты “Каталіцкі веснік”! Шчыра дзякуем за вашу адданую працу і ў чарговы раз звяртаемся з просьбай надрукаваць віншаванне з імянінамі для нашага **ксяндза-пробашча** парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса, што ў Падсвіллі, **Віталя Бяленіка**.*

*Святаром быць у нашы дні няпроста! Для гэтага недастаткова паклікання: тут патрэбны асаблівы дар, дадзены звыш. Дар, дадзены Госпадам нашым, Які размаўляе з намі Вашымі вуснамі.*

*Дарагі наш айцец Віталь! Дазвольце нам павіншаваць Вас з імянінамі, якія Вы адзначаеце 28 красавіка. Хочацца заўважыць, што мы – вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса – верым Вам і верым у Вас, а таму заўсёды ідзём да Вас з нашымі радасцямі і смуткам! Мы спадзяёмся, што Вы з намі будзеце доўгія гады!*

*Жадаем Вам моцнага здароўя, супакою, мудрасці, сіл і цярпення, Божай дапамогі і благаслаўлення ва ўсіх шматлікіх справах, нялёгкай працы і добрых намерах.*

*Няхай Вас беражэ Бог Усемагутны, апякае Маці Божая, а Анёл-ахоўнік заўсёды абараняе.*

***Са шчырай павагай, вернікі з Падсвільскай парафіі***

## Спачуванне

Паважаны **ксёндз Валеры Орсік** і Вашы родныя! Прыміце нашыя шчырыя спачуванні ў сувязі са смерцю таты. Няхай Усемагутны Бог дасць Вам моцы перажыць цяжар страты блізкага чалавека. Падзяляем Ваш боль, яднаемся з Вамі ў малітве аб супакоі для душы памерлага. Просім Міласэрнага Збаўцу, каб прыняў Вашага тату Казіміра ў Нябеснае Валадарства.

***З малітвай, парафіяне касцёла Св. Айца Піа ў Лёзне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус! Хрыстос уваскрос!



*Шчыра віншуем нашага пробашча **ксяндза Яна Пугачова** з вялікім, светлым святам Пасхі! Жадаем, каб Уваскрослы Хрыстус напоўніў Ваша сэрца, сэрцы Вашых блізкіх сваім спакоем, каб Маці Марыя, Каралева неба і зямлі, ахоўвала Вас. Божага благаслаўлення Вам, дабра, моцнага здароўя, даўгалецця, паразумення, плёну ў нялёгкай працы на жніве Божым, больш сонечных дзён і ўсмешкі на твары!*

***“Маргарытка” з парафіі Перамянення Пана ў Германавічах***

## Паважаны ксёндз Юрый Жаўняровіч!



*З нагоды Вашых імянін дасылаем самыя сардэчныя пажаданні! Няхай здароўе будзе моцным, у сэрцы заўсёды гасцяць спакой і дабрыня, а энергія спадарожнічае на працягу доўгіх гадоў жыцця! Жадаем, каб Анёл-ахоўнік моцна трымаў Вас за руку і дапамагаў у розных складаных жыццёвых сітуацыях. Няхай Маці Божая апякуецца Вамі і Вашымі роднымі! Дзякуем за добрае сэрца, за мудрыя парады і за тое, што Вы з намі!*

***Вернікі парафіі Маці Божай Анёльскай (в. Замошша)***

## Хвала Хрысту!



*З нагоды вялікай урачыстасці Уваскрасення Пана, а таксама з нагоды 10-гадовага юбілею “Каталіцкага Весніка” шчыра віншуем увесь творчы калектыў газеты! Жадаем Божай дапамогі і плёну ў працы, здароўя, супакою ў жыцці!*

*Асаблівае віншаванне і ўдзячнасць галоўнаму рэдактару **ксяндзу Віктару Місевічу**: дзякуем за шчырыя і духоўныя казанні на старонках газеты і жадаем поспехаў і надалей!*

*Віншуем таксама са святам імянінаў (19 красавіка) **ксяндза Валерыя Марціноўскага**, які ахвярна працуе для нашай парафіі, а таксама ўсіх нашых святароў віншуем з Вялікаднем!*

***З удзячнасцю, малітвамі і шчырай павагай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў г. Паставы***

## Віншуем!



*23 красавіка Дзень нараджэння і імяніны святкуе **ксёндз Юрый Бараўнёў**, які служыць у Крулеўшчыне, Порплішчы і Барсуках.*

*З гэтай нагоды сардэчна віншуем Вас, ксёндз Юрый і жадаем Вам моцнага здароўя, Божай дапамогі, апекі Маці Божай ва ўсіх Вашых справах!*

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# Пра каталіцкія імёны і малітву на ружанцы

*– Добры дзень, паважаная рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”!*

*Віншую вас са святам Вялікадня! Зычу моцнага здароўя, Божай дапамогі ў вашай такой карыснай для нас, чытачоў, справе!*

*А яшчэ хацелася б на старонках газеты прачытаць адказы на два пытанні, якія мяне хвалююць.*

*1 У 1981-м годзе ў мяне нарадзіўся сын. Ва ўзросце прыкладна сямі дзён ён быў ахрышчаны без маёй прысутнасці дома ў праваслаўнага святара ў г. Магілёве. Пры хросце атрымаў імя Сяргей. Я доўгі час знаходзілася ў бальніцы пад наглядам урачоў. Па прыездзе дадому мае родныя схілілі мяне да думкі, што імя ў сына не каталіцкае, таму я зарэгістравала яго Паўлам. Першую Камунію сын прыняў у касцёле. Кожны год на дзень народзінаў сына я заказваю Імшу на імя Сяргея-Паўла. Ці правільна я раблю? Якое імя ўпамінаецца ў малітве?*

*2 З 90-х гадоў амаль пастаянна бываю на святой Імшы. Заўсёды перад Імшой молімся на ружанцы. Помніцца, раней людзі не дазвалялі прапускаць пры малітве разважанні. Можа, цяпер Касцёл дазваляе называць толькі таямніцу, не акцэнтуючы ўвагу на разважаннях?*

*Дзякуй за ўвагу!*

*З павагай і любоўю да нашага “Каталіцкага Весніка”,*
***Ванда Кірылава** (аг. Ёды)*




Папа Рымскі Сяргей I

**На пытанні адказвае ксёндз Аляксей Ляшко, афіцыял Біскупскага Суда ў Віцебску.**

### Ці імя Сяргей - каталіцкае?

– Хрыстос Уваскрос!

Вялікі дзякуй, шаноўная Спадарыня Ванда, за пытанні!

Паспрабую адказаць на першае пытанне, звязанае з імем, якое далі Вашаму сыну на святым Хросце.

Праз хрост Пан ачышчае нас ад заганы першароднага граху, адпускае ўсе грахі, якія ўчыніў чалавек да моманту хросту, і дае нам звышпрыродны дар Божай асвячальнай ласкі. Праз хрост Бог адраджае чалавека да новага жыцця дзяцей Божых, а чалавек праз хрост далучаецца да супольнасці Касцёла.

Падчас хросту дзіцяці даецца хрысціянскае імя, і яно павінна быць імем святога альбо святой, каб ахрышчаны меў прыклад для наследавання і меў таксама свайго заступніка перад Богам.

Вы пішаце, што на хросце было выбрана імя Сяргей. А вашы родныя схілілі вас да думкі, што гэта не каталіцкае імя, і таму вы зарэгістравалі сына Паўлам. Такім чынам, моліцеся вы за Сяргея Паўла.

Імя Сяргей – вельмі старажытнае і паходзіць ад лацінскага *Sergius (Сергіус)*, якое, у сваю чаргу, паходзіць ад Генс Сергія (альбо проста Сергій), ад старажытнарымскай сям’і патрыцыяў. Дарэчы, у Кнізе Дзеяў Апосталаў мы знаходзім згадку пра гэтае імя: “Ён быў разам з праконсулам Сергіем Паўлам, чалавекам разумным” (Дзеі 13, 7). Як мы бачым, Божы Провід дапамог Вам выбраць імя Павел, пад якім Вы зарэгістравалі свайго сына.

Каб упэўніцца ў тым, ці яно каталіцкае, звернемся да гісторыі Касцёла. Чатыры Рымскія Папы насілі імя Сяргей: святы Сяргей I (гады пантыфікату – 687-701), Сяргей II (844-847), Сяргей III (904-911) і Сяргей IV (1009-1012). Таму з упэўненасцю можна сказаць, што імя Сяргей – каталіцкае.

Перакананы, што Вы робіце добра, калі кожны год замаўляеце святую Імшу на дзень народзінаў сына і ў малітве ўжываеце імя Сяргей Павел. Мы ведаем, што малітва маці вельмі моцная і патрэбная для дзяцей. У Рыгора Барадуліна ёсць вельмі прыгожы верш, які так і называецца – “Малітва матчына”:

*“Гаючыя словы малітвы*
*Матчынай,*
*Якія Ён шаптаў перад сном,*
*Ісус паўтараў на крыжы,*
*Як на няўлоўнай мяжы,*
*Між чорнай ноччу і белым*
*днём,*
*Світаннем святое крыві*
*пазначанай.*
*І ў кожным з нас*
*нерастрачанай спадчынай*
*Жывуць, ратуючы нашы дні,*
*Вяртаючы душы да вышыні,*
*Балючыя словы малітвы*
*матчынай”.*

### Як правільна маліцца на ружанцы?

Адказваючы на другое пытанне, трэба заўважыць, што святы Людвік Марыя Грыньён дэ Манфор (1673-1716), святар, які меў вялікую пашану да Божай Маці, адзін са сваіх галоўных твораў – “Дзіўная таямніца святога ружанца для навяртання і выратавання” – прысвяціў менавіта ружанцу.

Ён заахвочвае маліцца на ружанцы ўсіх вернікаў, адначасова перасцерагаючы ад дзвюх найбольш распаўсюджаных памылак, якія дапускаюцца падчас ружанцовай малітвы.

*“Каб добра памаліцца на ружанцы, пасля заклікання Святога Духа на хвіліну стань у прысутнасці Бога (...). Перш чым пачаць маліцца дзесяць “Вітай, Марыя”, спыніся даўжэй ці карацей, у залежнасці ад часу, які маеш, каб паразважаць над таямніцай, якую праслаўляеш у гэтых дзесяці “Вітай, Марыя”, прасі праз заступніцтва Маці Божай, адну цноту, якую яна мае, альбо тую, якая табе больш за ўсё патрэбна...*

*Будзь уважлівым да дзвюх распаўсюджаных памылак, якія людзі робяць, молячыся на ружанцы. Па-першае, яны наогул не маюць інтэнцыі, у якой моляцца на ружанцы. І на пытанне, аб чым яны моляцца на ружанцы, яны не змогуць адказаць. Таму, молячыся на ружанцы, заўсёды май на ўвазе некаторыя ласкі, якіх жадаеш папрасіць, некаторыя цноты, якіх патрабуеш, або грахі, ад якіх жадаеш пазбавіцца.*

*Другая памылка, якую звычайна робяць людзі, молячыся на ружанцы, – гэта жаданне яшчэ перад пачаткам ружанцовай малітвы, каб скончыць яго як мага хутчэй. Гэта звязана з тым, што мы бачым у ружанцовай малітве штосьці непрыемнае, цяжкае для нас, як пакута, што дадзена нам супраць нашай волі...”.*

Ружанец – гэта вельмі прыгожая малітва, але ў той час і цяжкая. Малітва – гэта праца, перадусім духоўная праца. А мы ведаем, што кожная праца – цяжкая і патрабуе ад нас пэўных намаганняў.

Святы Папа Павел VI у Апостальскай адгартацыі *Marialis Cultus* (Марыйны Культ) пісаў, што “калі не хапае разважання, то Ружанец становіцца падобным да цела без душы і ўзнікае небяспека, што малітва стане механічным паўтарэннем формулаў, а таксама што будзе супярэчыць напаміну Хрыста, Які сказаў: “Калі моліцеся, не гаварыце шмат, як язычнікі, бо яны думаюць, што ў мнагаслоўі сваім будуць пачутыя” (Мц 6, 7). Па сваёй прыродзе ружанцовая малітва патрабуе спакойнага рытму і ўдумлівасці, якія спрыяюць малітве, а таксама дапамагаюць разважаць пра таямніцы жыцця Пана, праз сэрца Той, Якая была найбліжэй да Пана, і раскрываюць неспасцігальнае багацце гэтай малітвы” (MC 47).

Вельмі моцныя словы. Мы ведаем, “што цела без душы” – гэта труп. Ружанец без разважанняў, можа, таксама стаць такім “трупам”. Прыгожая ружанцовая малітва без разважанняў над таямніцамі можа перарасці ў “пустое адгаворванне пацераў”.

Іншы святы, Папа Ян Павел II, пакінуў нам прыгожы Апостальскі Ліст *Rosarium Virginis Mariae* (Ружанец Дзевы Марыі), у якім таксама дае некалькі парадаў для правільнай малітвы на ружанцы.

Першая парада – *“Называнне таямніцы і, калі толькі гэта магчыма, адначасовае ўяўленне выявы, якая яе прадстаўляе, – гэта як бы адкрыццё сцэны, на каторай трэба засяродзіць увагу. Словы скіроўваюць уяўленне і дух да акрэсленай падзеі ці моманту з жыцця Хрыста” (RVM 29).*

Другая парада – слуханне Божага слова, спалучанае з разважаннем у цішыні. *“Каб надаць разважанню біблійную аснову і большую глыбіню, карысна пасля называння таямніцы прачытаць адпаведны біблійны тэкст, які, у залежнасці ад абставін, можа быць карацейшы альбо даўжэйшы. Таму што ніякія іншыя словы не могуць параўнацца па сваёй дзейснасці з натхнёным Словам. Яго трэба слухаць з упэўненасцю, што гэта Слова Бога, прамоўленае для сённяшняга часу і “для мяне”. Успрынятае такім чынам, яно ўваходзіць у ружанцовую метадалогію паўтарэння, не выклікаючы стомленасці, якую выклікаў бы звыклы паўтор ужо добра засвоенай інфармацыі. Таму што сэнс не ў тым, каб выклікаць у памяці інфармацыю, а ў тым, каб дазволіць Богу “гаварыць”.*

*“Слуханне (Божага Слова) і разважанне жывяцца маўчаннем. Слушна было б пасля называння таямніцы і прачытання Слова праз адпаведны час спыніцца і засяродзіць на таямніцы, перш чым распачаць вусную малітву... Так як у літургіі рэкамендуецца хвіліна маўчання таксама падчас ружанцовай малітвы, пасля таго як праслухана Слова Божае, будзе дарэчнай кароткая паўза, у час якой будзе засяроджваецца на сутнасці пэўнай таямніцы” (RVM 30-31).*

Такім чынам, святы Ян Павел II не толькі тэалагічна, але і практычна наблізіў Ружанец да Святой Літургіі. Пры такім спосабе малітвы на Ружанцы кожная таямніца становіцца падобнай да маленькай Літургіі Слова. Хто так моліцца на Ружанцы, напэўна, не ўпадзе ў так званае “кляпанне пацераў”.

Таму, калі ў наступны раз мы будзем маліцца на Ружанцы, будзем памятаць пра важныя рэчы, якім нас вучаць Касцёл і святыя. Перад ружанцовай малітвай мы павінны абудзіць у сэрцы інтэнцыю, у якой жадаем маліцца – маліцца павольна і засяроджана, разважаючы над кожнай таямніцай Ружанца, прынамсі кароткім вершам са Святога Пісання.



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**

**2 мая 2021г.**
**V Велікодная Нядзеля,**
***Ян 15, 1-8***

Езус у Евангеллі параўновае сябе з вінаградналй лазой, а нас – з галінкамі. Ён папярэджвае вучняў, што, каб прынесіць плён у духоўным жыцці, неабходна трываць у еднасці з Ім самім. Як адрэзаная галінка любой расліны вяне, так і чалавек, не маючы жыццядайнай сілы ад Бога, таксама засыхае. А прызначэнне вучняў Хрыста – прынесці плён. Мы не можам бясплённа пражыць жыццё. Заўсёды трэба ставіць сабе за мэту дабро. Цікава, што Бог як Стваральнік не толькі запрашае нас абрабляць зямлю і кіраваць светам, прыродай, а таксама Ён намякае, што і духоўныя справы хоча рабіць у супрацоўніцтве з чалавекам. Які гэта вялікі давер з боку Бога! Ён запрашае нас да супрацоўніцтва! Важнай акалічнасцю таксама ёсць тое, што Езус падкрэслівае асаблівую залежнасць Бога ад нас. Гэтым уславіцца Айцец Мой, калі вы прынесяце багаты плён і станеце Маімі вучнямі. Вядома, што Бог па сваёй прыродзе самадастатковы, і нашая прысутнасць ніякім чынам не ўплывае на Яго бясконцасць, святасць і веліч. Аднак кожны наш добры ўчынак з'яўляецца праслаўленнем Госпада. А гэта ёсць прынцып нябеснага жыцця: збаўленыя людзі і анёлы праслаўляюць Бога ў небе. Таму калі мы робім дабро на зямлі, то пашыраем Божае Валадарства. Неба тады прыходзіць на зямлю.

**9 мая 2021г.**
**VI Велікодная Нядзеля,**
***Ян 15, 9-17***

Езус заклікае нас заставацца ў Яго любові. І гэты наказ мае прыктычнае тлумачэнне. Каб заставацца ў любові Хрыста, неабходна выконваць Яго запаведзі. Любоў – гэта калі мы з павагай ставімся да словаў чалавека, якога любім. Калі яго меркаванні і ідэі важныя для нас. Тое самае і з нашым Збаўцам. Немагчыма казаць пра блізкія адносіны з Хрыстом, калі няма вернасці Яго наказам. Адным жа з галоўных заахвочванняў Езуса ёсць запаведзь любові да іншага чалавека. Ніхто не мае большай любові за тую, калі хто жыццё сваё аддае за сяброў сваіх. Гэтую цытату мы часта разумеем у кантэксце мучаніцкай смерці, калі нехта аддае сваё жыццё за іншага чалавека, каб яго ўратаваць. Аднак, думаю, мы тут таксама можам гаварыць і пра тых, хто ахвяруе свой час, каб даглядаць хворых, састарэлых. Аддаць часцінку свайго жыцця – гэта таксама пабыць са сваімі дзецьмі, пагуляць з імі ці праверыць урокі. Ахвяраваць сваё жыццё – гэта дапамагчы сваёй жонцы на кухні ці дапамагчы ёй прыбраць дом. Любоў складаецца з самых простых нашых учынкаў, калі мы хочам быць для некага, а не для сябе.

**16 мая 2021г.**
**VII Велікодная Нядзеля,**
***Ян 17, 11b-19***

З урыўка Евангелля мы даведваемся пра нянавісць свету да вучняў Хрыста. Тыя, хто пайшоў следам за Божым Сынам, хто ведае Яго голас, павінны ўсведамляць сабе, што нашае духоўнае жыццё – гэта барацьба. Хрысціянства – няпростая рэлігія. Мы ведаем прыктыкі працяглых малітваў, постаў і аскезы. Усё гэта патрэбна нам, каб не страціць адчуванне духоўнага свету. Справа ў тым, што матэрыяльны свет спрабуе злавіць верніка ў свае сеткі. Гэта лёгка бачна па тым, як часта людзі, ахрышчаныя ў імя Святой Тройцы, становяцца ахвярамі пасткаў злога духа. Гэта – любая залежнасць, што знявольвае чалавека, кшталту алкагалізму, наркаманіі, прагі грошай, улады і г.д... Аднак Божы Сын, прадбачачы ўсе гэтыя выпрабаванні, горача моліцца за нас да Айца, каб мы маглі вытрываць і перамагчы ў барацьбе. Таму важна памятаць пра яшчэ адзін момант. Усё, што мы можам пасмакаваць у духоўным жыцці, чаго можам дасягнуць, – усё гэта толькі дзякуючы Божай дапамозе. Нашых людскіх сілаў не дастаткова, каб супрацьстаяць злому духу. Таму Езус і кажа: "Не прашу, каб Ты ўзяў іх са свету, але каб захаваў іх ад злога." Тым не менш, якімі б ні былі абставіны нашага зямнога жыцця, варта нам памятаць і пра тое, што Езус сам нас пасылае ў свет. Мы маем заданне змяняць гэты свет сваёй святасцю, пабожнасцю і любоўю.

**23 мая 2021г.**
**Нядзеля Спаслання**
**Духа Святога,**
***Ян 20, 19–23***

У Нядзелю Спаслання Духа Святога мы разважаем пра дзейнасць трэцяй асобы Святой Тройцы. Дух Святы вее там, дзе хоча. Ніколі не можна сфармаваць для Яго нейкія рамкі і правілы, паводле якіх Ён павінен быў бы дзейнічаць. Паводле св. Тамаша Аквінскага Дух Святы – гэта такая агромністая, жывая і бязмежная Любоў паміж Айцом і Сынам, што з'яўляецца Асобай. Дух патрэбны, каб існаваў Касцёл, каб гісторыя збаўлення працягвалася ў жыцці паасобных людзей і цэлых супольнасцяў. Дух патрэбны, каб чалавек мог стаць новым стварэннем, перанарадзіцца, як адной-чы Езус сказаў Нікадэму. Дух патрэбны, каб мы захацелі заўважыць адну важную акалічнасць: духоўны свет не менш рэальны, чым матэрыяльны, ён выяўляецца нават у яшчэ большай ступені. Чаму людзі гэтага часам не заўважаюць? Таму што вочы духоўнага бачання замазаныя брудам, г.зн. грахом. Менавіта таму Езус, аб'яўляючыся вучням, кажа: "Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаны; на кім пакінеце, на тым застануцца." Тэма граху далёка не банальная і не "заезджаная". Як бачым, сам Езус дае ўладу сваім апосталам адпускаць грахі. Гэта самая надзейная зброя супраць валадарства цемры: духоўнае перанараджэнне ў сакраманце споведзі і ставанне ў праўдзе перад самім сабой і перад Божым позіркам.

**30 мая 2021г.**
**Урачыстасць**
**Найсвяцейшай Тройцы,**
***Мц 28, 16–20***

Дактрына пра Найсвяцейшую Тройцу не акрэслена ў Святым Пісанні так, як мы знаходзім яе ў сучасным Каталіцкім Катэхізісе. Падрабязна яна была выпрацавана толькі ў IV і V ст.ст. пасля Нараджэння Хрыста. Аднак сёння мы чытаем пра вырозны наказ Езуса вучням: "Дык ідзіце і навучайце ўсе народы, і хрысціце іх у імя Айца і Сына, і Духа Святога." Старт у духоўным жыцці адбываецца менавіта з сакраманту хросту, які ўдзяляецца ў імя Святой Тройцы. Невыпадкова, што гэты наказ гучыць якраз у Галілеі – там, дзе пачалася місія Хрыста. Цяпер час прапаведавання толькі Ізраэлю завершаны. Перад апосталамі стаіць іншае заданне: ісці і навучаць усе народы, вучыць іх захоўваць усё, што загадаў Езус.



Каб падбадзёрыць вучняў, Настаўнік кажа: І вось Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку. Ён не развітваецца так, як гэта робім мы, калі пакідаем некага. Езус абяцае нам сваю падтрымку, сваю прысутнасць. Як гэта важна: жыць у прысутнасці Госпада! У нас, бывае, перамагае такая спакуса аддалення Бога са свайго жыцця: маўляў, няхай Ён пабудзе дзесьці там, далей ад маіх штодзённых спраў, я паспрабую неяк сам справіцца. Не! Якраз-такі важна, каб Бог пасяліўся ў маім жыцці і заняў там першае, самае галоўнае месца!

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. канонік Віктар Місевіч,***
*г. Віцебск*



# Святая Месса в скалах Ирландии

**В Ирландии из-за запрета на публичные богослужения для ограничения распространения коронавируса католический священник Джерард Квирк провёл Пасхальную Мессу на берегу острова Акилл, сообщает *Седмица* со ссылкой на *Catholic Arena*.**

В этой местности, называемой "Скалы месс", ирландские католики в прошлом проводили свои тайные богослужения во время притеснения их британскими колонизаторскими властями – в период с 1695 по 1829 гг.

Отмечается, что второй год подряд правительство Ирландии отменяет все публичные богослужения Страстной недели и Святой Пасхи, также как и многие другие правительства, которые в последнее время аналогично вынуждены вводить ограничения на массовые религиозные мероприятия.

В связи с этим священникам приходится искать новые и творческие способы, чтобы избежать запретов на проведение месс. Наиболее ярким примером из них является организация богослужений среди "Скал месс", которые веками были тайным местом поддержания веры, куда приходили католики, опасаясь быть арестованными или казнёнными британской полицией.



Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

# ПАЗНАВАЙКА

У гэтым нумары будзем разважаць над жыццём хлопчыка, які быў простым пастушком, але праз тое, што быў абраны Госпадам, стаў Царом Ізраэля. Які ён, цар Давід? Давай, даведаемся разам.

**Заданне №1.** Каб добра выканаць заданне прачытай урывак з Біблії, 1-я кніга Царстваў 16, 1-13

Аднойчы прарок Самуіл памазаў алеем галаву Давіда, на знак таго, што менавіта Давід абраны як цар Ізраэля. Злучы па кропках малюнак і ўбачыш як гэта адбывалася. Адкажы на пытанне, адкуль выліваў алей прарок Самуіл. Адказ_______________



**Заданне №2.** Давід быў таленавіты і ўмеў іграць на музычных інструментах. Разгадай рэбус і даведайся на якім інструменце іграў Давід для Саўла.

Правер сябе, прачытай урывак з Біблії, 1-я кніга Царстваў 16, 17-23.




**Заданне №3.** Здаралася, што леў ці мядзведзь намагаліся скрасці авечак са статку, які пасвіў Давід. Але ён кідаўся на звера, перамагаў яго і вяртаў авечку ў статак. Знайдзі 5 адрозненняў на малюнках.





**Заданне №4.** Цар Давід напісаў частку Псалтыра. Прачытай адзін з самых вядомых псалмаў Давіда, псальм 22.




**Заданне №5.** Пастаў словы ў правільным парадку і прачытай урывак з псальма.




АДКАЗ: ________________________________

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

# II этап Дыяцэзіяльнага конкурсу на веданне Святога Пісання

**10 красавіка адбыўся II этап Дыяцэзіяльнага конкурсу 2021 г. на веданне Святога Пісання.**

**■ с. Дар'я Галубкова OV**

Сёлета конкурс выйшаў за межы Віцебшчыны: да ўдзелу далучылася значная колькасць дзяцей з шасці парафій Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Удзельнікі ва ўзросце да 14 гадоў уключна паказалі свае веды паводле зместу Евангелля ад Мацвея і Кнігі Тобія.

Па выніках II этапу вылучана 50 фіналістаў, якія будуць змагацца за прызавыя месцы ў маі ў Віцебску. Арганізатар конкурсу "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі шчыра дзякуе ўсім удзельнікам, а таксама іх бацькам і катэхетам, за намаганні, прыкладзеныя ў вывучэнні Слова Божага.








## Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам ад 1 да 5 рублёў на месяц, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць ахвяраванне колькасцю 1, 2, 3, 4 ці 5 рублёў можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*375295105172*2# — калі Вы хочаце ахвяраваць 2 рублі
*363*375295105172*5# — калі Вы хочаце ахвяраваць 5 рублёў
(апошняя лічба ў кодзе абазначае памер ахвяравання)
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага фармату:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумару 364. З баланса Вашага тэлефона будзе спісана 1, 2, 3, 4 або 5 рублёў, у залежнасці ад таго, якую суму Вы ахвяравалі.

**Увага!** Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 5 рублёў. Каб даслаць большую суму ахвяравання, неабходна паўтарыць аперацыю.

**Увага!** Прапанова актуальная толькі для абанентаў МТС. Калі Вы з'яўляецеся абанентам А1 ці іншага мабільнага аператара ў Беларусі і жадаеце ахвяраваць на "Каталіцкі Веснік", Вы можаце проста папоўніць баланс тэлефона: +375295105172.

**Вялікі дзякуй за ахвяраванне на падтрымку сайта Catholicnews.by!** За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша! Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя сайта Catholicnews.by***

**Правільныя адказы на тэст са старонкі 7**

1 – Б; 2 – Б; 3 – А; 4 – Б; 5 – Б; 6 – В; 7 – А; 8 – В; 9 – А; 10 – В



**Больш навін, здымкаў і відэа на нашым сайце Catholicnews.by**


**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:**
рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 1912

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3400 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк

Падпісана ў друк 22.04.2021 г. у 7.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)61-88-22
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь